


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Пікнік беларускага слова → 4

Белавежскае рознагалоссе → 8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 28 (3296) Год LXIV | Беласток, 14 ліпеня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Падляшша — як з карцінкі

У Нарве творцы ўжо пяты раз пакінуць па сабе трывалы след. Невялікае падляшскае мястэчка на тыдзень мяняецца ў мастацкі цэнтр, у які з'язджаюць артысты з некалькіх краін. Тут 5 ліпеня адкрылася выстаўка, на якой можна было захапляцца карцінамі і мастацкімі працамі, для якіх інспірацыяй стала Падляшша.

### НА ПЛЕНЭРЫ МОЖНА БОЛЬШ

З раніцы да вечара час быў прысвечаны творчай працы. Ужо першага дня пленэру нарваўская сакральная і свецкая архітэктура, а таксама багатая прырода выліліся на палотны. Цягам тыдня кожны з удзельнікаў пленэру стварыў пяць прац у акрылавай, акварэльнай ці мяшаных тэхніках.

— Стараюся запрашаць мастакоў, якія працуюць, — заўважыў куратар пленэру Данель Грамацкі. — Артыст гэта індывідуаліст — часам яму хочацца, а часам не. Арганізуючы пленэры, так стараюся запрашаць людзей, каб атрымалася творчая разнастайнасць. Прыязджаюць мастакі, якія больш працуюць у галіне дэкаратыўнага мастацтва, але ёсць і тыя, хто стараецца выходзіць на паветра і непасрэдна чэрпаць натхненне ад прыроды.

Адным з ахоўнікаў падляшскай прыроды і беларускай тоеснасці, якая натуральна ў яе ўпісваецца, з'яўляецца мастак Віктар Кабац. Мастак нарадзіўся пад Нараўкай і па сённія трымае кантакт з прыродай. Віктара Кабаца натхняе наваколле і гэтыя інспірацыі выражае працамі, якія спалучаюць у сабе элементы гісторыі і мясцовай фаўны і флоры.

— У сваёй майстэрні не магу працаваць з агнём, бо мая майстэрня ў блоку. Гэта даволі брудная работа, — патлумачыў падляшскі мастак Віктар Кабац. — Трэба знайсці матэрыял. Зараз я выкарыстаў старыя дошкі. Тут недалёка стаяць дзве старэнькія хаткі і там ужо ўсё абрываецца. Ужо пяты год праходзіць той пленэр і я абкрадаю гэтыя хаткі з дошак. Мае працы, якія я зараз зрабіў, выкананы метадам з прымяненнем агню. Гэта „Птушка, якая не паляціць". Намаляваць такое немагчыма. Другая праца „Малітва ангела". Калі ўжо з'явіцца ў мяне нейкая візія, тады агонь ставіць кропку над „і".

### ТВОРЧАЕ СЯБРОЎСТВА

Нарва пасля доўгага перапынку сёлета зноў гасціла мастакоў, якія сваёй працай падкрэслілі адметнасць гэтай мясціны. У гэтым годзе мерапрыемства аб'яднала дванаццаць артыстаў з Беларусі, Украіны, Літвы і Польшчы. З 29 чэрвеня па 5 ліпеня тут стваралася мастацкія працы, але і праходзілі доўгія вечаровыя размовы сяброў, якія даўно не бачыліся.

— Вечары праводзім з нашымі сябрамі-пленэршчыкамі, размаўляем, п'ём гарбату, падымаем маленькія кілішкі за Польшчу і за нашы краіны, — адзначыла Ала Шкарадзёнак.

Мастачка закончыла Беларускую акадэмію мастацтваў, з'яўляецца членам Беларускага саюза дызайнераў, членам клуба «Батык». Брала ўдзел у міжнародных выстаўках у Расіі, Літве, Германіі, Швейцарыі, Францыі.

— Мастакі чакаюць лета, каб пабываць на пленэры, — дадала артыстка. — Самае галоўнае, што можна пайсці і сесці ў траву і назіраць за воблакам, за небам. Праца на пленэры каштоўная і каштоўнае наша сяброўства. Мы сябе ўзбагачаем.

Пленэр гэта магчымасць для дружалюбных сустрэч і дыскусій. Як падкрэсліў куратар і арганізатар пленэру ў Нарве, творчай атмасферы спрыяе дух сяброўства.



Віктар Кабац



Ала Шкарадзёнак



Данель Грамацкі

— Мы можам працаваць у сваіх майстэрнях, — дадала мастачка з Мінска Святлана Рыжыкава.— Праца на пленэры зусім іншая, цікавая. Я зараз тут, а пазней еду на пленэр у Літву і сапраўды еду з вялікай ахвотай.

Працы Святланы Рыжыкавай можна між іншым пабачыць у новай кніжцы Андруся Горвата „Прэм'ера". Ілюстрацыі мастачкі таксама ўпрыгожваюць шэраг дзіцячых беларускамоўных кніжак. Святлана Рыжыкава — адна з самых вядомых графічак.

— З гэтымі мастакамі я ўжо шмат разоў сустракаўся на розных пленэрах. Некаторых людзей пазнаеш і больш ужо не бачыш, а з іншымі хочаш трымаць кантакт, — сказаў Данель Грамацкі.— Наколькі ёсць магчымасць, узаемна сябе запрашаем. Я таксама ездзіў на пленэры на Украіну, Літву, Латвію. Калі гэта магчымае, я стараюся іх таксама запрашаць у Польшчу.

### МАЛЯЎНІЧАЕ ПАГРАНІЧЧА

У пятніцу, 5 ліпеня, у Нарве адбылася выстаўка прац, створаных у выніку мастацкай тыднёвай дзейнасці ўдзельнікаў пленэру. Гэта была ўнікальная сустрэча ў кампаніі незвычайных творцаў і прыхільнікаў мастацтва. Тыя мелі ўнікальную магчымасць паразмаўляць непасрэдна са стваральнікамі, даведацца пра розныя метады, якія выкарыстоўваюцца падчас творчага працэсу, а таксама набыць прадстаўленыя творы.

— Ой, мы тут аж чатыры карціны стварылі, — кажа Ала Шкарадзёнак. — Нас так прымаюць, кормяць, а мастак стваараючы павінен быць галодным (*смех*). Я — дэкаратыўшчык, але першая праца атрымалася паводле вашых пейзажаў, але што Беларусь, што Польшча — адно і тое ж. Я, калі пераязджаю мяжу, нават не бачу розніцы. Падляшша — блізкае.

На Падляшшы міжнародныя мастацкія пленэры праходзяць у розных месцах. З 8 ліпеня стартуе пленэр у Нараўцы, які мае ўжо доўгую традыцыю. Таксама невялічкія зімовыя пленэры праходзяць у Бандарах.

— Падляшша так па-мастацку цікавае. Прырода, драўляная архітэктура сапраўды ўражвае і інспіруе артыстаў, — патлумачыў Данель Грамацкі. — Некаторыя малыя пленэры можна проста назваць сяброўскімі сустрэчамі. Так менавіта выглядае зімовы пленэр у Бандарах — ён маленькі, не так шумны, але таксама творчы.

Унікальнасць месца і атмасферы, створанай гаспадарамі, здаецца, прымусіла кожнага ўдзельніка ўспомніць пленэр у Нарве як адзін з самых прыемных гэтым летам.

— Пленэр, асабіста для мяне, гэта такое пашырэнне межаў, — сказала мастачка Юлія Гетман з Луцка. — Я праз людзей лепш пазнаю свет. Кожны чалавек гэта нейкі свет, а мастакі — вельмі яскрава выражаны свет. Гэта вельмі цікава.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**





# Запавет зубра

Ну вось! Нарэшце мы пачулі, на якой мове размаўляе беларускі зубр.

Ну мы то і так ведалі. Па-беларуску ён гаворыць, як жа яшчэ, але зараз пачулі тое на свае вушы.

Зубр загаварыў. Маўчаў вякамі. Маўчаў, як княжае імклівае паляванне па Пушчы не шкадавала яго продкаў. Маўчаў, як царскія паляўнічыя раскладвалі ў шэраг пушчанскія трафеі і дзеля забавы фатаграфаваліся з забітымі ляснымі волатамі. Нічога не сказаў, як быў загад у Першую сусветную вайну пабольш настраляць лясной жыўнасці, каб пракарміць войска. І ў Другую сусветную не абмовіўся і гукам, як людзі шукалі ў Пушчы харчаванне, каб не памерлі іх дзеткі з голаду...

Нават тады, калі высокапастаўленыя браканьеры стралялі апошніх белавежскіх зуброў, і тады маўчаў...

А як людзі апамяталіся, і від белавежскага зубра, цара Пушчы, пачалі ўсяляк падтрымліваць, каб той від аднавіўся, і тады не спяшаўся загаварыць. Не падзякаваў людзям! Нават кіўком галавы не падзякаваў.

А за што ім дзякаваць? Самі падумайце...

Здавалася, ужо ніколі не загаворыць!

А вось тут загаварыў. У Мінску, на закрыцці Еўрапейскіх гульняў. Загаварыў па-беларуску!

„Я быў тут адвеку. Я бачыў, як адступае мора і растаюць ледавікі. Я бачыў, як кволы парастак робіцца магутным дрэвам. Я голас гэтай зямлі. Я — яе моц, яе душа. Мой дружа, памятай сваю гісторыю. Без мінулага няма будучыні. Гэта твой час. Я — Беларус! Мы — Беларусы!", — сказаў беларускі зубр.

У перадапошняй і апошняй фразах націск быў зроблены на абодва словы. І на словы „Я" і „Мы", і на слова „Беларус" і „Беларусы".

Зразумела, што зубр быў сімвалічны, зроблены чалавекам як дэкарацыя для ўрачыстасцей. Але дэкарацый дэкарацыям розніца. Усялякіх дэкарацый хапае ў сучаснай Беларусі. І з партрэтамі Сталіна ездзяць, і кветкі гармаце ўскладаюць, і георгіеўскую стужку, каб пачапілі на машыны, людзям раздаюць задарма. Праўда, усё радзей раздаюць, бо ахвочых чапляць тыя стужкі значна паменшала. Але часамі ўгаворваюць. І ўсё з падачы, або адабрэння ўлады.

А тут зубр, які загаварыў па-беларуску... Вось гэта дэкарацыя! Усім дэкарацыям дэкарацыя! Гэта як казырным тузам пабіць неказырную шасцёрку.

Цікавы паварот. Відаць сённяшняя беларуская ўлада сапраўды напалохалася нечага. Хіба што насамрэч нарэшце ўсур'ёз успрыняла мажлівасць пагрозы з Усходу, і стала шукаць рэгіянальныя адметнасці ў адзінай саюзнай дзяржаве...

Ну трэба ж ратавацца неяк. Бо пагроза для незалежнасці краіны нейкім чынам па іроніі лёсу супала з пагрозай і для іх саміх!

Цікавае ў жыцця пачуццё гумару, праўда! Ох, якое цікавае! А што яно яшчэ прыдумае, тое пачуццё гумару?! Якая сатыра акажацца самай трапнай?!

Думаю і на Усходзе пачулі гэты пасыл ад беларускага зубра. Пачулі, што ён, пушчанскі волат, беларускі зубр, што ён беларус. І што мы беларусы. І на Захадзе хіба пачулі. І ў Беларусі пачулі. Прычым на роднай мове. Па-беларуску. Па-нашаму!

Праўда, больш нічога такога па-нашаму ўжо не пачулі. Праз некалькі дзён на ваенным парадзе ў Мінску ўсе загады аддаваў ужо не зубр, і не па-беларуску. Загады людзям у вайсковай форме і са зброяй у руках аддаваліся па-руску. І тэлядыктар на мове нашых усходніх суседзяў тлумачыў, хто там маршыруе па шырокай вуліцы беларускай сталіцы, як маршыруе, і чаго маршыруе.

А там хто толькі не маршыраваў. І казахі, і армяне, і ўзбекі... Многа розных было. Роўнымі шэрагамі, услед за беларускімі вайскоўцамі, прайшліся парадным маршам... Дыктар на тэлебачанні патлумачыў (бо нешта ж трэба было патлумачыць), што гэта ўсё салдаты тых краін, якія ў цяжкія часы ліхалецця дапамагалі нам разам разбіць лютага ворага ў гады Другой сусветнай вайны і здабыць перамогу. А як па вуліцы Мінска вайсковым маршам пайшлі кітайцы, дасведчаны дыктар не стаў асабліва шукаць для іх другой версіі кітайскага ўдзелу ў беларускім вайсковым парадзе. І тая версія нармальная.

Замыкалі парад, вядома ж, бравыя хлопцы са славутай Канцеміраўскай дывізіі войск Расійскай Федэрацыі...

Зубра на парадзе не было. А навошта? Ён усё сказаў. Дадаць больш няма чаго. Ды і не трэба. Галоўнае, каб тое, што ён сказаў, пачулі ўсе. Думаю, усе і пачулі.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Гутарка глухіх соў

Падляшскі народзік любіць панаракаць. Калі не на цяперашнюю ўладу, то на мінулую. І не важна, што і за што выліваецца з чалавечай зяпы. Важна, каб было там хоць трошкі са штодзённых расчараванняў і безыменнай злосці. Нядаўна ехаўшы на аўтобусе па маршруце Беласток — Нарва я наслухаўся гэтых скаргаў колькі ўлезе. Здавалася б, гэта была пустая балбатня. Агульную і спачатку млявую дыскусію ініцыяваў прымусовы прыпынак на святле часовай блакады на дарозе ў рамонце. З часам з ананімнай масы пасажыраў вылучыліся лідары. Невыпадкова — адзін на задняй частцы аўтобуса, а другі на фронце. Ад абмеркавання да спрэчкі дарога нядоўгая. Паночкі пачалі абражаць адзін аднаго словамі і жэстамі. Пры падтрымцы некалькіх падтаквачаў пружыніла свае рацыі як мышцы, аргументавалі невядома што, даказвалі чорт ведае што. Цікава, што яны абодва замоўклі, бы хто працяў нажом, калі аўтобус разам з кавалькадай іншых аўтамабіляў рушыў наперад. Але калі ён зноў спыніўся, паночкі зноў ускалыхнулі сваё эмацыйнае слова. Маўклівая большасць пасажыраў звесіла насы. Падарожжа працела ўміг і ўсе былі рады. Пасля я зразумеў, што ўсе спрабавалі забіць сумоту, чакаючы канца блакавання дарогі на святлафорах. Гэтак адбываецца ў непрадуктыўных чэргах да лекара ці ў любых іншых. Экзекуцыя звычайна бярэ форму лінчавання, масавага забойства, тлумнага згвалтавання. Радыкальныя дзяленні адзначаны ў гэтым стыхійным акце. Тое, што ўвекавечана ў пераканаsuccessfully, закарэлае ў непажаданых траўмах, страхах і дрэнных эмоцыях, пачынае імкліва сыходзіць крывёю і выплюхвацца звонку. Усё можа стаць пачаткам. Неабавязкова толькі палітыка. Хоць палітыка з'яўляецца самым моцным ініцыятарам чалавечай варожасці. Галоўны рэдактар тыднёвіка «Палітыка» Ежы Бачыньскі («Палітыка», сёлетні нумар 25) нагадвае даследаванне прафесара Пятра Радкевіча, нядаўна прадстаўленае праф. Крысцінай Скаржынскай на тэму сістэмы каштоўнасцей польскага грамадства, у тым ліку яго сімпатыі да ПіС і іншых партый (але асобна), напрыклад, да ГП, ПСЛ, СЛД, Кукіз, Корвін, Разам. Паводле іх, «электарат ПіС (...) камунітарны, антыліберальны і прыпісвае сабе (па парадку) наступныя прыкметы: паслухмянасць, спачуванне да іншых, клопат пра парадак, сціпласць, дысцыпліну, вернасць». Акрамя іншых партый, прыхільнікі ГП «бачаць у сабе ў першую чаргу цікаўнасць да свету, амбіцыі, лідарскія навыкі, поспех, незалежнасць». Апісаныя ў даследаванні профілі палякаў адпавядаюць маёй інтуіцыі і, магчыма, кожнаму ўважліваму назіральніку. Можна высноўваць з іх многа. Аднак самая сумная выснова такая: палякаў падзяляе значна больш, чым толькі палітыка. Палітыка палярызуе ўсе іншыя, але важныя падзелы, якія ўжо даўно закранаюць польскае грамадства. Яны носяць культурны, сацыяльны ці ідэалагічны характар. Палітыка падзяляе іх толькі на сваё і чужое. Гэтыя адрозненні не былі згладжаны гадамі камунізму і гадамі дэмакратыі ў яе неаліберальным варыянце ані ўзрастаючым узроўнем адукацыі ўсяго грамадства, ані лёгкім і роўным доступам да носьбітаў інфармацыі такіх, як інтэрнэт або фейсбук. Цікава, што ў апошнім выпадку высветлілася, што лішак інфармацыі яшчэ больш экстрэмалізаваў гэтыя адрозненні. Звычайна вядома, што чым больш інфармацыйных бітаў уліваецца ў розум чалавека, тым больш ён схільны да таго, каб закрыцца. Бо ніхто не ў змозе праверыць гэты аб'ём інфармацыі і ўключыць яго ў кагнітыўную структуру, якая ўжо існуе ў розуме. Некаторыя, больш інтэлектуальна падрыхтаваныя, нейкім чынам спраўляюцца, прыкладна, селекцыянуючы наплываючыя порцыі бітаў. Яны падзяляюць іх на важныя ці нязначныя, упарадкоўваючы іх паводле сваёй сілы і патрэбы. І ідуць далей. Іншыя ставяць на іх псіхічныя бар'еры і, у пэўным сэнсе, спыняюцца на хаду. Нават калі дапускаюць да сябе нейкую інфармацыю, дык толькі тую, якая апісвае свет на мове, якую яны разумеюць. Гэта можа быць газета ці тэлевізійная праграма. На жаль, гэтая мова не вольная ад спрашчэнняў і ганарлівых абагульненняў. Бывае, што яна ператвараецца ў нахабную прапаганду. Такую выраджаную форму інфармацыі адкінуць з абурэннем многія людзі, супрацьстаючы ёй сваю мову дыскурсу, аргументацыі і доказаў. Тыя дзве мовы (неабавязкова толькі дзве) маюць толькі супольную граматыку. Вось на супольнай галіне сядзяць дзве глухія савы. Маўчаць. Адна кажа «Ты ў мяне ў задніцы!» Маўчаць. Кажа другая: «А я маю цябе ў попе». І маўчаць далей.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Пушчанскія развітанні

У гэтым месцы «Нівы» часта пішу пра свае ўспаміны, рэфлексіі ці проста назіранні за маім пушчанскім, вясковым лёсам. Мабыць, той тэматыкі ўжо занадта нашым чытачам, але лічу важным для свайго сумлення і пашаны для маіх аднавяскоўцаў і аднапляменцаў запісаць вобразы і перажыванні таго свету, які за некалькі гадоў акажацца рэальна адпетай песняй. А затым гісторыі пушчанскіх беларусаў стануць, мабыць, дзіўна-наіўнымі ў сваім пераказе расказамі для наступных пакаленняў, якім беларуская мова і пісанае слова будуць толькі нагадваць пра іхні радавод.

На мінулым тыдні мая гарачая тэлефонная лінія з родным домам на самым пачатку размовы апавясціла голасам таты чарговую, сумную навіну наконт развітання з чарговым нашым аднавяскоўцам. Мы жывем у адным канцы вёскі, а пакойны ўжо Уладзімір на другім, пры самым лесе. Гэта быў класічны пушчанскі мужчына, якога светам была толькі прырода і жывёла. Ніколі не набыў трактара, трымаў толькі коней і сабак. Былі яны Яму блізкімі па душы. Заўсёды стаяць перад маімі вачыма вобразы, калі летнімі вечарамі з туманаў над Глобучанскімі лугамі выплывае Ягоная фура з сенам, якая памаленьку кацілася на свой панадворак. А таксама калі з пасавога самым познім вечарам вяртаўся са сваім статкам кароў — летняя цемра не была Яму зусім чужая. І калі іншыя аднавяскоўцы аралі трактарамі і карысталіся прыладжанай да гэтага тэхнікай, Ён пасплываў з усім справіцца робячы ўсё парай прыгожых коней. Заўсёды на Ягоным панадворку вадзіліся сабакі. Любіў Ён усялякія пароды і думаю, што каб пагаварыць наконт таго, якія сабакі прыдатныя для паляўнічай гаспадаркі, то не аднаго і вопытнага лоўчага патрапіў бы зацікавіць пушчанскімі назіраннямі.

Менавіта пра Яго некалькі гадоў таму назад загаварыла ўся Беласточчына і Польшча, а то дзякуючы незвычайнаму здарэнню на ўскраіне Белавежскай пушчы, у нашым Доўгім Бродзе. Тады ачмурэлы зубр-адзінец запароў на лугу каля хаты прышпіленага на ланцугу каня. Гэта быў перадапошні конь у нашай вёсцы.

Падзея набыла паўсюдную вядомасць. Гаспадар не здаўся і набыў другога каня. Але ад цяжкай працы зусім перасталі слухацца суставы ў клубах. Пасля аперацый пачаў ізноў мацней абапірацца на ногі — даслоўна і ў пераносным сэнсе. І вось раптоўнае зямное развітанне адбылося ў Яго духоўным свеце, прымеркаваным толькі да касмічнай прасторы мясцовых абарыгенаў. Менавіта падаўся Ён на прыхатні лужок, каб накасіць травы свайму любімаму каню. Зрабіўшы два пакосы, проста зваліўся на зямлю і адплыў у пушчанскую прэрыю, дзе можа ўдоваль любавацца табунамі коней на свабодных, бязмежных тэрыторыях. Такога развітання не прыдумаеш, калі не будзеш штодзень жыць у гармоніі са светам прыродна-духоўных сіл. Адышоў спадар Уладзімір з зямнога свету пры любімым занятку, звязаным нябачнай ніткай з адным з сімвалаў дахрысціянскіх веравызнанняў — сваім канём. Конь, які ў абарыгенных ці потым рыцарскіх эпасах і легендах з'яўляецца не толькі важным элементам веравызнання, але і сімвалам узаемнай вернасці і пашаны. Нічога затым дзіўнага, што пры амаль кожнай мясцовасці па сённяшні дзень у тапанімічных назвах існуюць конскія могілкі.

Смерць пакойнага Уладзіміра ізноў павяла мяне ў сумную вандроўку па хатах маёй вёскі, якія ўжо не маюць нашых, доўга-бродскіх пераемнікаў. Толькі перад вачыма мільгаюць усе цёткі і дзядзькі з іх характэрнай мовай, прывычкамі, мянушкамі. Пашчасціла мне быць знаёмым з імі з дзяцінства. Добра ўсведамляю, што толькі закон жыцця і смерці вызначае нашу зямную прысутнасць. Аднак увесь сум і прыгнечанасць спасцігаюць нас разам са смяротным кругазваротам. Заўпакойныя хаўтуры плывуць над апошнімі сведкамі пушчанскай прысутнасці. Мой бацька ізноў запытаўся ўголас: хто будзе наступным, а хто апошнім аднавяскоўцам, якога правядуць бясследна з роднай зямлі?..

**Яўген ВАПА**

# Жыровічы:
## аддыхацца ў святой цішыні (2)



Я доўга не магла адарваць вачэй ад цёплай, дзікай карціны, якая сама па сабе абуджала пачуццё святасці і ўтульнасці. Над галоўным уваходам у Лаўру ўгняздзіліся сем'і ластавак. Яны перасякалі прастору між вуліцай і царквой ды напаўнялі паветра вібруючым гукам. Іх шчэбет застаўляў думаць пра летні дождж і гаючую расу, якіх дамагаліся расліны і зямля.

Манахі паклапаціліся, каб птушкі не залятлі ў сярэдзіну храма, таму ўваход ад вуліцы забяспечаны жалезнай сеткай. Дзякуючы стабільнай заслонцы, дзверы ў Лаўру адкрываюць у жару, як сёння. Найперш, каб сагрэліся муры і праветрылася сярэдзіна. Сам уваход не такі ўжо просты, у царкву трэба дабірацца ад двара, пакручастымі ходамі і калідорамі...

Я пакуль адпачывала ад трохгадзіннай язды на маршрутцы з Берасця. Шчэбет і плаўныя акрабацыі ластавак застаўлялі думаць пра сферу сакрум у беларусаў. Нашы продкі берaглі і любілі ластавак як членаў сям'і. Дазвалялі ляпіць ім гнёзды як найбліжэй жытла, у страсе хаты, на гарышчы. І берaглі як неабходны абярэг і талісман сямейнага шчасця. Таму экалагічны рыт, якія на «добры дзень» прывітаў мяне ў Жыровічах, здаваўся лепшы за залаты дэкор і ўсякія прыгожасці. Святое месца прамовіла па-людску.

* * *

Яшчэ да аўтарскай сустрэчы, я рашыла звязацца з паэтам Зьнічам. Спытаць, ці ведае пра прэзентацыю маёй кніжкі. Спатканне, літаральна з ходу, арганізаваў Сяргей Чыгрын. Дзень да ад'езду я атрымала ад яго інфармацыю: *«Ёсць дазвол усіх улад»*.

Усё апошняе аставалася цьмянай загадкай. Ці будзе яшчэ нейкая публіка? Ці ўсё звядзецца да прыгожых слоў і перадачы кніг у бібліятэку? На месцы, пры трыццаціградуснай жары, сумненні аказаліся яшчэ больш апраўданымі. У Жыровічах панавала ціш, як на могілках. Спакой час ад часу парывалі кукарэканні пеўняў і машыны, якія праляталі праз сонную мясціну. Людзі схаваліся ў дамах ад спякоты і не думалі пра іншае. Мне не хацелася зрушыць іх спакой, накідацца з кніжкай. Канчаткова ўсё звялося да адной думкі:

— Галоўнае, каб прыйшоў Зьніч!

Я рашыла адшукаць манаха. Дзяжурны, якія выседжваў ля адкрытых дзвярэй сабора, раней чым адправіў мяне да манастырскай брамы, благаславіў на кантакт:

— Спачатку скажыце, што я вас благаславіў, — падказаў.

Ну, добра. Дзяжурны, які пільнаваў уваход на тэрыторыю манастыра, адразу ведаў пра каго мова:

— Тот паэт у сером? — спытаў.

— Тот!

Дзядзька запісаў мне нумар мабілкі манаха. Усё дарэмна. Тэлефон не спрацаваў. Тады дзяжурны пазваніў у корпус, каб там падказалі што і як. У адказ толькі развялі рукі. Ніхто не ведаў, дзе шукаць славутага манаха:

— Ён сышоў па-за тэрыторыю, — адказалі там з нехаваным прызнаннем, — а калі вернецца, Бог адзін ведае...

Я таксама не ведала, што будзе далей са мной...

* * *

У Жыровічах тры бібліятэкі, таму спачатку я патрапіла не туды дзе трэба, то-бок, у Дом культуры. Там паказалі рукой, дзе мне ісці. Далей усё пакацілася як у казцы. У паўдарозе сустрэла мяне сама загадчыца бібліятэкі Наталля Васілеўская. У бок бібліятэкі ішоў стройны маладзён з саксафонам:

— Гэта сюрпрыз, — сказала спадарыня Наталля, — для вас...

На сустрэчу прыехаў сам Сяргей Чыгрын са Слоніма:

— Сёння мы пахавалі рэдактара «Слонімскай газеты», — пачаў ён. — Ехаў учора на машыне, спыніўся і ўсё... Памёр ад гэтай ненармальнай спёкі і жары...

Усе знакі на небе і зямлі паказвалі, што з жарой няма жартаў. Кожны госць, які ішоў у бок бібліятэкі, здаваўся мацаком духу і непадробленым інтэлектуалам. Спадарыня Васілеўская падказала раней, што іх установай карыстаецца палова жыхароў вёскі, больш за паўтысячы чытачоў.

Гарачыя эмоцыі ў кампаніі падбіў прыход Зьніча. Паэт з'явіўся лёгкім крокам, апраменены аўрай свята. Ён захоплены Беласточчынай і літаб'ядананнем «Белавежа». Свае вандроўкі ў Беласток паэт успамінае як благадатныя хвіліны. З падобнай цеплынёй і прызнаннем расказаў пра нас Сяргей Чыгрын, які павёў сустрэчу. Зала ажыла, распрамянілася. Здавалася, зніклі межы і час і мы зноў адчулі сябе адной беларускай сям'ёй.

Ну, на пачатку мяне прывіталі як замежнага госця... У ходзе ўсё вярнулася на сваё месца. Спадарыня Васілеўская на развітанне сказала, што будзе вывучаць беларускую мову.

* * *



У бібліятэцы я пазнаёмілася са спадарствам Галяй і Уладзімірам Кавальчукамі.

Адразу пасля сустрэчы мы схадзілі на рэпетыцыі музычнага калектыву «Крыніца», які вядзе спадарыня Галя. Рыхтаваліся да выступлення 3 ліпеня. Мяне цікавіў рэпертуар, які жанчыны заспяваюць у час дзяржаўнага свята.

— «Ехаў Ясь на кані, Кася воду брала», — пачалі пявунні. — Далей «Купалінка»...

Не менш цешыла мяне прысутнасць спадара Уладзіміра. З яго асобай жыхароў Падляшша пазнаёміла Радыё Рацыя:

*«Унікальны чалавек жыве ў вёсцы Жыровічы Слонімскага раёна, — пісаў карэспандэнт. — Гэта фатограф, мастак, іканапісец Уладзімір Кавальчук. Родам спадар Уладзімір з Меншчыны. У 1995 годзе ён з сям'ёй пераехаў у Жыровічы. Усё жыццё Уладзімір Кавальчук займаецца мастацкай фатаграфіяй. Прымаў удзел у розных міжнародных выставах і конкурсах. Яго фотаздымкі, асабліва чорна-белыя, атрымлівалі сярэбраны медаль у Францыі на конкурсе „Fiap" (1982), міжнародным конкурсе „Еўропа-83" (бронзавы медаль), былых усесаюзных і рэспубліканскіх конкурсах. Персанальныя фотавыставы мастака адкрываліся ў Італіі, Польшчы, Даніі. У 1991-1995 гадах Уладзімір Кавальчук узначальваў Менскі абласны фотаклуб „Крыніца".*

У першы дзень пабыўкі я яшчэ не ведала, што самыя незабыўныя здарэнні пройдуць ля святых жыровіцкіх крыніц. А зараз, пасля рэпетыцый, спадар Уладзімір суправаджаў мяне на вячэрню ў Лаўру. Над уваходам, як у час сустрэчы, шчабяталі і кружылі ластаўкі...

Я ніколі не адчувала сябе такой узрушанай і адначасова спакойнай...

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

## Нарваўская дэмаграфія

У Нарваўскай гміне Гайнаўскага павета 47 вёсак і вёсачак, у тым ліку 39 салэцкіх. Найбольшыя гэта Нарва (пражывае ў ёй 1412 асоб), Трасцянка (205), Ласінка (187), Тыневічы-Вялікія (128), Крывец (123), Макаўка (113), Гарадзіска (82), Адрынкі (81), Сацы (73), Ваські (65), Агароднікі (64), Ляхі (60), Анцуты (60), Храбустоўка (44), Тыневічы-Малыя (44), Новіны (43) ды Прыбудкі і Ванева (па 42).

Зараз ва ўсёй гміне пражывае 3451 чалавек (1653 мужчыны і 1708 жанчын), а ў 2016 годзе было 3618 чалавек. Лік жыхароў Нарваўскай гміны, — як аўтарытэтна сцвярджае ў тамашнім ЗАГСе кіраўнічка Ала Хіліманюк, — з кожным годам меншае і меншае.

На працягу двух гадоў лік жыхароў паменшаў, між іншым, у Нарве — на 12 асоб, у Рагазах — на 11, у Храбустоўцы — на 8, у Ляхах — на 6, у Агароднiках, Бялках, Гародчыне і Янове — па 5 і ў пяці вёсках (Анцуты, Крывец, Прыбудкі, Трасцянка, Тыневічы-Вялікія) — па 4 ды ў пяці сёлах — па тры. Павялічылася колькасць жыхароў, між іншым, у Ласінцы і Рыбаках — на 4 і ў Ваських — на 3 жыхароў.

Да найменшых вёсак належаць Кавела — 40, Катлоўка і Пухлы — па 38, Даратынка, Козлікі і Рыбакі — па 34, Лапухоўка і Істок — па 33, Кутова — 32, Градочна — 31, Бялкі і Рагозы — па 28, Сакі — 23, Падбаравіска — 20, Янова — 19, Радзькі — 17, Іванкі — 16, Цімохі — 15, Гарэнды і Скарышэва — па 12, Граматнае — 8, Уснаршчына — 7, Пашкоўшчына — 7, Брушкоўшчына — 5, Цісы, Забалацце і Гайдукоўшчына — па 2 ды Качалы — тут усяго 1 жыхар.

У нацыянальных адносінах насельніцтва гміны неаднароднае: жывуць тут беларусы і палякі. У Нарваўскай гміне на 100 мужчын прыпадае 105 жанчын. Зараз няма стагадовых жыхароў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## У Старым Ляўкове

На Пятра і Паўла, 12 ліпеня гэтага года (пятніца), у Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета адбудзецца беларускі народны фэст. На сцэне выступяць мастацкія калектывы „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, калектыў з Латвіі, „Калінка" з Беластока, „Севен" з Бельска-Падляшскага і „Арт-Пронар" з Нарвы. Пачатак імпрэзы а гадзіне 17-й. Да танцаў да гадзіны 23.30 будзе падыгрываць „Твістар".

Культурна-забаўляльнае мерапрыемства арганізуюць Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы.

## „Бандароўская гасцёўня"

13 ліпеня гэтага года ў Бандарах Міхалоўскай гміны Беластоцкага павета традыцыйна адбудзецца беларускі фэст „Бандароўская гасцёўня". У праграме спектакль у выкананні тэатральнай групы „Промык" з Дома сацыяльнай дапамогі ў Гарбарах каля Бандароў (пачатак а гадзіне 16-й), а затым выступы мастацкіх калектываў „Чырвоныя шпількі", „Славянская нота", „Спявай душа" і „Прымакі" — усе яны з Міхалова, „Ігрыца" з Мінска (Рэспубліка Беларусь), „Крыніца", „Світанак" і „Лайланд" з Беластока ды „Хутар" з Гарадка. Ад гадзіны 20-й пачнецца танцавальная забава пад гукі беластоцкага гурта „Лайланд".

Падчас і пасля канцэрта можна будзе пацікавіцца, між іншым, рукадзеллем народных майстроў з Міхалоўскай і Нараўчанскай гмін (на кірмашы), беларускімі кніжкамі, кампакт-дыскамі з гуказапісамі беларускіх, рускіх і ўкраінскіх песень.

Фэст ладзяць Беларускае грамадска-культурнае таварыства, бургамістр Міхалова, Асяродак культуры ў Міхалове, солтыс і актыў Бандароў ды мясцовая добраахвотная супрацьпажарная каманда. **(яц)**

# Шосты Пікнік

На Городіску пад Трасцянкай плылі трапкатыя хмары, якія ўрэшце звалілі на палеткі і лясы доўгачаканы дождж. «Так называецца гэтае старадаўняе месца, важнае для беларускай гісторыі і культуры» — кажа Віктар Стахвюк. — Тут знайшлі артэфакты шасціцысячагадовай даўнасці. Значыць, тут жылі нашы людзі раней да старажытных рымлян. А гэтае месца — незвычайнае. Тут і «месца моцы». Тут 3800 гадоў таму стапрацэнтна была праславянская вёска, знайшлі тут старажытныя гаршкі, штрыхаваныя зарубінецкай праславянскай штрыхоўкай. Лешак Матэля, вядомы радыестэт, памераў, што тут ёсць 20 тысяч адзінак па шкале Бовіса. Проста — месца, якое дае нам сваю моц!» І хоць вакол мокрыя лугі, падрэчкі — ані адзін камар не заляціць і не зробіць шкоды чалавеку, які прыехаў сюды набраць натхнення для пісання на сваёй роднай мове. А пчолы шчыруюць на кветках ранняга лета...






■ Злева: Віктар Стахвюк, Барыс Пятровіч Сачанка і Юрка Плютовіч

Віктар Стахвюк — арганізатар чарговага Пікніку з беларускай мовай (на другім банэры — Пікнік з білоруською мовой), вярнуўшыся з летняй Еўропы, узлез на трактар і абкасіў буйныя травы вакол даезду на стахвюкоўскі хутар пасярод 150 гектараў сваёй зямлі. Уласнай, трасцянiцкай, на якой гаворцы піша найбольш таемныя свае кнігі. Віктар — незалежны пісьменнік. Хаця згуртаваны — бо ж ён намеснік старшыні Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Паэт, празаік, педагог і радыйшчык, глыбакаводны аквалангіст, вядомы ва ўсёй Еўропе і нават у паўночнай Афрыцы. Не баіцца паглыбіцца ў самыя глыбокія воды і ў космас, а і ў самую дрымучую гісторыю нашых зямель і цэлай планеты. І Трасцянку сваю хоча паказаць. Павёў сваіх сяброў на самае моцнае месца ў вёсцы Трасцянцы ў Нарваўскай гміне — пад адну з найпрыгожых у свеце цэркваў. У вёсцы, вядомай ад стагоддзяў сваімі культурніцкімі і адукацыйнымі дзеяннямі. Паказаў помнік ахвярам бежанства 1915 года, які ўзнесла вёска побач свайго храма.

Задумшчык і выдумшчык, Віктар — чалавек з біяграфіяй, якою можна было б запоўніць не адно жыццё. Пражыў ён многа часу ў польскім горадзе Чанстахова, дзе быў выкладчыкам (сёння прыехаў ягоны вучань Грышка), затым быў у Беластоку, вярнуўся ў Трасцянку... Гаспадарыць. Некаторыя пытаюцца: «А чаго ты вярнуўся? Што, цябе выкінулі з тое Чанстаховы? Хіба ты кепскі прафесар быў? А нашто табе зямля?» Сваё «адпрафесараваў». І зноў вярнуўся ў сваю родную вёску. Аднавіў Мілeніну хату і тут жыве, непаседлівы, але не мітусілівы, канкрэтны, гаспадарыць, збірае плён і піша. Задумаў не толькі «Пікнік з беларускай мовай». На розныя імпрэзы прыязджаюць госці і суседзі са свету. Сёлета на сустрэчы — госці з Беларусі, з Чэхіі, з Польшчы. А найбольш — з Нарваўскай гміны — з Трасцянкі, з Нарвы, з Беластока... А сёння — яшчэ тры вялікія беларускія мерапрыемствы.

— У нас праходзіць свята на дзвюх мовах: на літаратурнай беларускай мове, бо ў нашых беларускіх школах, якіх некалі было 185, мы вывучалі дзяржаўную мову і таксама літаратурную беларускую мову, якая створана са шматлікіх дыялектаў, цэнтралізавана. Я вывучаў у Трасцянцы ў школе ад першага класа як першую мову — беларускую. У нас на Падляшшы нашы мовы, якія некалі называлі дыялектамі. Вось тут наша падляшская беларуская, стараруская мова. І на ёй можам выказаць усё — пачуцці, захапленне, свой патрыятызм. Кажуць пра яго «багацей», дык можа ў сваю «пасядласць» збіраць гасцей — літаратурную брацію. Але на гэтую бяседу запрасіў не толькі ён — багатую гасціну падрыхтавалі яго сябры і суседзі з Трасцянкі.

Свята было амаль сямейнае — сярод сабраных былі сваякі, сем'і з дзецьмі, гаспадары з суседніх гожых Сацоў, дзе моцна трымалася праваслаўе і ў час царкоўнай уніі. Чыталіся вершы па-свойму — на беларускіх гаворках, пабеларуску і па-польску. І спяваліся песні — па-свойму, па-беларуску, па-ўкраінску і па-руску, песні прывезеныя з далёкіх дарог з бежанства, з часу ваеннага ліхалецця, з месцаў, дзе нашых людзей прынялі як сваякоў. Адтуль і гожыя аздобы хат, якія сталі знакам Краіны адкрытых аканіц. Насвіствалі і спявалі птушкі, трасканталі конікі, дзьмуў парывісты вецер з-над палетка, дзе Віктар з Альжбетай і сынамі пабудаваў сваю самотню, дзе пасадзіў лес і засейвае нівы, дзе можна чытаць, спяваць, слухаць і гуляць з сябрамі.

На доўгіх сталах пад салідная паветкай ляжалі кнігі шасцёх аўтараў — Ірыны Мацкевіч з роду Вап з Мінска — паэтэсы і выкладчыцы вышэйшай матэматыкі ды аўтаркі дванаццаці падручнікаў па навучанні каралевы навук. Былі старшыня Аб'яднання беларускіх пісьменнікаў і галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў» Барыс Пятровіч Сачанка і перакладчык яго кнігі на польскую мову Юрка Плютовіч — вядомы паэта родам з Бельска, які піша на польскай мове (ён жа перакладаў таксама, між іншым, творы Васіля Петручука). Былі падпушчанскія — з Сацоў Лідзія Длугалэнцкая, што піша і выдае кнігі на польскай мове, усхваляючыя родны краявід і людзей, і зарэчанская Міра Лукша, што ўслухоўваецца ў «Спеў дрэў». І Віктар, у якога ёсць кнігі паэзіі, прозы, і новыя, немалыя тамы, у якіх ягоныя веды і ўявы могуць збіць з панталыку ды нават ашарашыць, хаця хтосьці можа іх назваць «байкай». Таленавітыя і моцныя. Напісаныя Віктарам пабеларуску і так, як гавораць у Трасцянцы. «Ёсць патрэба такіх малых моў, як мова нашай вёскі. Нельга пра яе забываць. Бо што ж будзе, калі дзеці і ўнукі не будуць ведаць мовы і будуць шукаць: а чаму яна прапала? На ёй жа пісалі Статуты! Я першы верш напісаў у чацвёртым класе пачатковай школы. Адважыўся прызнацца Віктару Шведу, што пішу, і мой першы верш быў надрукаваны ў «Зорцы»... А цяпер з'язджаемся сюды, каб пасярод прыроды, сяброў, важкіх твораў і эмоцый набраць натхнення і духу, каб выказаць важнае на нашай роднай мове»...

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**

Ірына ВАП-МАЦКЕВІЧ

## Пытанне мовы

Пытанне мовы не пароль – чужы ці свой.
Але чаму яно дае нам боль,
які пячэ дагэтуль праз стагоддзі?
Ці лёс такі, ці словы ўжо не ў модзе
пра Спадчыну, Каханне і Свабоду?
Ці непатрэбна ўвогуле народу
апісваць пачуццё да роднай маці,
што нас чакае безупынна ў хаце,
дзе нарадзіліся, але з двару пайшлі?
Мы, быццам няўдзячныя сыны,
забыліся на бацькавыя нівы,
на родныя зарослыя магілы.
Ці кут, дзе мы жывем, ужо нямілы?
Апамятацца трэба найхутчэй,
каб край заморскі не маніў вачэй,
і так зрабіць, каб здзейсніліся мары
Купалы, Коласа, тых, хто развеяў хмары
і, здолеўшы суперніка спазнаць,
абараніў Айчыну, мову, Маць.
Павінны заступіцца мы за мову,
каб дзеці, яе ўзяўшы за аснову,
як кропку для адліку новай эры,
змаглі ў лёс яе шчаслівы верыць!






# Слово лечыт раны

Вера РУСІНОВІЧ
Нарва

## Моя вёска руодна

Мейсцэ дзе пэршы раз дыхнула.
Зобачыла сонцэ, якое зімным променём
моргнуло до мэнэ і заговорыло,
што прыбліжаетцэ скрыпучы мороз,
які лісьце ў рулёнікі поскручвае.
А вэрхі сухой травы наложылі
шапкі пухового шрону.
І повертa стало колючэ.
Нэзнакомые людэ
павесілі кармнік на голле грушы
і сыпнулі жмэню збожа для пташкі,
якая шукала есьці. А шыбы ў окне
мороз помалёваў гожэ.
Так, а ў школе нэ ўчыўсе, бо як на ўроку
ёму быці, нэ муог, бо жэжка піч стояла
і зачаў плакаті. Баюра воды розлілася,
по подлозі потэкла, хутко вытэрлі
і вылілі на двуор. Буольш мороз
нэ ўходзіў у сэрэдзіну школы,
а ў окне на шыбе сідзеў і слухаў.
Такім учэніком быў мороз зімой,
а як прышла вэсна, его прогнала,
нэ знаю дэ вуон подзіўсе, бо я была
малая і мела штыры месяцы.
Зобачыла траву і бусла ў чэрвоных чоботах,
які ходзіў коло луга і штось шукаў.
Подумала, што штось згубіў,
а мама мне сказалі,
што есьці хочэ, бо прылецеў з-за мора
ў госьці. Тут на стоўпові его хата,
якую лоні зробіў з гуолля, сіна і болота.
Учула пэршэ его клекотанне,
думала, што браво б’е дзюбаком,
а вуон цешытцэ руодным гніздом –
так гожэ сьпіває.
Мама росказывалі мне дужо о прыродзі,
як я молоко ссала ў іх.
Тое ўсё мне вуйшло ў сэрэдзіну душы.
Стала я ходзіці і росьці
і бэрэзовым віеніком пэрэд нідзілёю
і сьвятом заміталі дорогу ўсланую бруком.
То быў обовязок подрослому дзіцяці:
між каменямі сьміце вымэсьці
далеко за выгун — то дорога, якою быдло
на поле і з поля выганялі і прыганялі.
Овэчкі ў погоні ходзілі,
а егнята на вушках кусьнікі колёровы мелі,
іх было вэльмі дужо — 200-300 штук,
а пасьці трэба колейкой под Антошковым
лугом і дубом. Рано пастух просіў словом
«выганяй, господару», а под вэчур
заходзілі овэчкі самі по своіх подвуорках.
Людэ, як управілісь з добытком,
збірались коло хаты порэд гуліцой на лаўку.
Сьвятом сьпівалі, а ў будні дні одыхалі.
Было вэсело. Много молодзёжы ў вёсцы жыло,
як настало Руздво, колядовалі.
За колядные грошы на другі альбо трэці
дэнь Рожджэства санкамі запрэжэнымі конём
ехалі ў Цэркву. Бацюшку просілі, коб
одслужыў молебень за здороўе ўсіх колядніков.
А як вэрнулісь до вёскі, то робілі колядну госьціну.
Усех, хто ажэніўсе, садовілі на столах і одгуцвалі –
аддзялялі од молодзёжы і частовалісе.
А як настаў Богаты вэчур, Гоготуха,
ходзілі по подвуорках, робілі шкоду,
брамы знімалі, дорогі попэлом высыпалі,
соломою высьцілалі, ворожылі бутамі,
кішку пэклі, колядовалі до Крэшчэнія.
Осталось тэпэр у памэці
мінулэ жыце на родзіне.

* * *

Я просты человек — а не важны.
Бо пішу словы, которые чэрпаю з руодной
Бацькоўской мовы.

Я много знаю слоў,
Бо родзілася тут і росла.
Куток сіеты мне мілы,
Матэрыяльне обідны, а богаты душэю.
Я разумею мову, якою лісьце да дэрве говорат.
Дождж іх кропіт, мочыт і мые,
А ветёр росы проганяе.
Под тэплым сонцом мэлёдыя по жылах,
Як по нутах ціхутко говорыт,
До сэрца промоўляе.
Родзіна моя богата,
Бо стоіт тут дзьвесьце гадоў наша хата.
У ёй подруба здорова і дах не проціскае,
Подлога да зэмлі прышыта,
А доскі гнілоі нэма.
Но поруог ужэ говорыт,
Бо дождж часто мочыў,
Вуон рассыпацісь хочэ.
На іконе ў куточку Божая Мацер
Од даўна слухала нашу мову,
Як мы просілі «Покрый нас од біды».
Под сьціною луожко дэрэўлянэ,
А на юом сіеннік льняны выпханы соломой.
Там одыхалі нашы бацькі і дзіды,
Якіе цяжко робілі ў полі.
А на подвуорку літом трава ростэ,
А зімою под сьнігом корыне одыхают.
Мнуого можна пісаці, пісаці,
З руодным словом жыці,
До всех говорыці,
А хто нэ понімае,
Як схочэ, научыцісь можна.
Нэ труднэ вонэ — а простэ
І клей мае ў собі.

* * *

Нашэ роднэ слово подляской зэмлёй пахнэ
Лечыт раны
Мягке і мілэ бывае усэ
Ёго губіці нэможна
Шановаці — як пух дэлікатнэ на дудзі
Повертa, і сонцэ сьвіетцэ
Шчасце ў нас госьцiт
Там у горы облокі сіні колёр малюют
А з дэрва пучкі з жыцём ростут
Рысуют жывую карціну родной землі
У рэчцы вода спокойно плывэ
На Подляской нашой земле
Міло і добрэ нам жыці
По-своему з людзьміа говорым
Уся прырода нас понімае
Голос чуе, земля родзіт, промоўляе
Дух ожыўляе
Мы богаты — родным словом жывэм

## З верой до Бога

Цяжкі раны на нозе вэлікі
І хвороба до мэнэ прышла
Мне полечыт іх молітвой
— З просьбой до Бога
Хірург, ісповеднік архіепіскоп
Сімферопольско-Крымскій
Войно-Ясенецкій сьвяцітель Лука
Дзісь я чытаю Акафіст:
Жыцие, ссылкі і страданіе Отца
Мне на помоч прыходят
— Раны лечат
Усё святые о Нём слова
Хоць невернікі над Сьвятынею
Сьміялісь
І робілі крывду мучылі Отца
Бог послаў Ёго ў людзі
Там явілісь чудзеса
Дзісь ікону маем
З ей плывэ здорова вода
Лечыт раны ў душэ і целе
Святою рукой — хірург
Ісповеднік, архіепіскоп
Сімферопольско-Крымскій
Войно-Ясенецкій
Сьвяціцель Лука

* * *

Усю думку слоў
Трэба зубом роскусіці.
Тогды почуем смак які жывэ,
Выплывае з сэрэдзіны его.

Як вецер повінэ, запах рознэсэ ўсюды,
Богацтво ў нас зачнэ родзісісь
У тэплой хаці, дэ жыці будэ
Мова родного слова.
Простота — а нэ паньскі цяжкі подлуг,
Які стопой нэвыгодно пэрэйсьці
Нашы бацькі чужой стравы не елі,
З цяжкім трудом на родной зэмлі жылі
І цішылісь своім куском хлеба,
Які чорствы нэ быў ніколі.
Сем’я наша за столом сідзела,
Душа родное слово мела.
Госьціна была своя
Такая, як мама кормілі дзіцяа,
Словом родным дзілілісь як дзісь
На картцы по-панску пісалі,
А од душы розговорку з рота выпускалі,
Такую як колісь з грудзі высмакталі.
Нам было міло і тэпло.
Мы знаем усё на родной Ніве жыцё,
Якое пахнэ хлебом у полі, а вецер
Колышэ осьцянкамі на полі,
Іх хвалямі ўкладвае так гожэ.
Любоў у душэ ростэ
На нашой родной зэмле.
Мы помэтаці будэм і ўспомінаем
Стопу малого дзіцяці, якая ўчорай ходзіла.
Дзісь выросла — а памэтаці будэ,
Як тэпло ў мамы было,
Бо роднэ слово з рота плыло
А вецёр рознёс ёго по сьвеці.
Дзісь чуем, як учатцэ говорыці малые дзеці
Там далеко за мором і горамі высокімі.
Іх нэ відно, а чуці ўсем
Як вецер родну мову нэсэ ўсюды.

## Пад развагу

Пры вуліцы ў Кузаве з боку Чаромхі-Станцыі расце шэсць велізарных ліп. Пяць побач сядзіб Вольгі Раманчук і Уладзіміра Пікуціна, адна побач Уладзіміра Клімюка (пакойнага, у летні час насяляе дом дачка Людміла). У пачатках шасцідзясятых гадоў пасадзіла іх вясковая моладзь, згуртаваная ў Саюзе вясковай моладзі. Ініцыятарам пасадкі быў Ян Саўчук сын Рыгора. Ліп было намнога больш, але з ходам гадоў былі ссечаны, таму што пагражалі бяспецы прыдарожных пабудоў (побач майго дома, напрыклад, былі зрэзаны чатыры, дзве побач Марыі Вайташак). Сяляне падавалі заявы ў гміну, каб Павятовае праўленне публічных дарог у Гайнаўцы пацікавілася справай і зрэзала кроны да паловы. Пісаў я ў „Ніве”, але безвынікова. Чынушам як гміннага, так і павятовага самаўрадаў гэта пустая гаворка. Паводзяць сябе як у прымаўцы: «Жывем з краю, нічога не знаем». А пры апошніх анамаліях надвор’я страшна было праходзіць вуліцай, калі дрэвы схіляліся да зямлі. Мая суседка праз вуліцу Людка Клімюк (па бацьку) пасля апошняй віхуры прыбірала абламаныя галіны ліпы. «Добра, што ніхто не праходзіў дарогаю, — казала. — Не цяжка ўявіць, што было б, калі б такі аблом зваліўся зверху на чалавека або праезджую машыну». Чарговы раз заклікаю адказных чыноўнікаў за парадак на кузаўскай вуліцы: паклапаціцеся пра добраўпарадкаванне векавых прыдарожных дрэў, пакуль ніхто не пацярпеў. Шукаць тады вінаватых будзе запозна. Падумайце, даражэнькія, заўчасна. Раіць вам ніжэйпадпісаны

**Уладзімір СІДАРУК**

## Бельскія «Васілёчкі»



Мастацкі калектыў песні і танца «Васілёчкі» вядомы ў краіне і за мяжою. Арганізаваўся ў 1964, але афіцыйную назву прыняў у 1973 годзе. Калектывам кіравалі шматлікія, вядомыя на Беласточчыне музыканты. Зараз дырыжорам з’яўляецца Мікалай Фадзін. «Васілёчкі» канцэртавалі ў шматлікіх гарадах Польшчы: у Варшаве, Быдгашчы, Торуні, Плоцку, Познані ды Сопаце. Калектыў вядомы таксама на Беларусі. Выступалі з канцэртамі ў Гародні, Бераставіцы, Смаргоні, Віцебску ды Мінску. «Васілёчкі» з’яўляюцца лаўрэатам шматлікіх конкурсаў «Беларуская песня», сталым удзельнікам культурных сустрэч «Гродна — Беласток», свята беларускай культуры ці фальклярыстычнага мерапрыемства «Купалле», шматлікіх аглядаў і конкурсаў. За сваю шматгадовую мастацкую дзейнасць у карысць беларускай культуры, калектыў быў узнагароджаны Залатым значком «Заслужаны Беласточчыне», фінансавай узнагародай міністра культуры і нацыянальнай спадчыны, таксама ўзнагародай бургамістра горада Бельск-Падляшскі. Ансамбль песні і танца «Васілёчкі» карыстаецца вялікай папулярнасцю сярод гледачоў. Рэпертуар у іх багаты і разнародны. Калектыў прэзентуе народныя абрады, калядкі, народныя і велікапосныя песні на беларускай, украінскай, польскай і расейскай мовах. Налічвае трыццаць удзельнікаў. У мінулым годзе, 9 траўня, на Дзень перамогі выступаў з канцэртам у Пружанах, сёлета 9 мая — у Пагранічным. У гэтым годзе «Васілёчкі» выступілі ў сераду 3 ліпеня ў Дзень незалежнасці Беларусі з канцэртам у Высокім. **(УС)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Самае важнае

У малой вёсцы па Падляшшы жыў хлапец. Яго звалі Юрка. Ён жыў у вялікай драўлянай хаце. Працаваў хлапец у полі: у яго былі машыны і коні. Юрка быў стройным маладзёнам, але ў яго не было жонкі.

Ён вельмі хацеў закахацца, толькі не мог знайсці адпаведную дзяўчыну.

Адна — Оля, была такая высокая прыгажуня. Хлапец адразу ў яе закахаўся. Другая — Ева, не была прыгожай. У яе былі шэрыя валасы і маленькія, карычневыя вочы.

— Ці прымеце маё запрашэнне, — спытаў аднойчы ў дзяўчат Юрка, — і зойдзеце ў госці?

— Ну, добра, — адказалі дзяўчаты, — зойдзем.

Хлапец пачаставаў дзяўчат гарбатай і размаўляў з імі да вечара. Трэба было ўжо развітацца. Юрка запрог каня і адвёз дзяўчат да іх хаты.

Раніцай ён прачнуўся і думаў: «Ах Оля! Ты такая прыгожая!»

Ён увесь час думаў пра Олю.

У нядзелю ён дрэнна сябе адчуў і захварэў. Юрка ляжаў у пасцелі і не мог нават падняцца з ложка. Хутка пра хваробу пачулі людзі ў вёсцы. Калі Оля даведалася пра гэта, яна толькі паціснула плячыма. Не хацела думаць пра хворага сябру. Толькі Ева вельмі спачувала Юрку. Яна прыехала да яго і суцяшала.

Калі хлопец паздаравеў, ён рашыў наведаць каханую Олю. Дзяўчына аднак прыкідвалася надта занятай. Такі адказ Юрка атрымаў некалькі разоў. Ева толькі глядзела на сястру і спачувала Юрку. Ёй была сорамна за сястру, што яна прама не скажа хлапцу, што ён для яе абыякавы...

Аднойчы Ева і і Юрка пачалі з сабой шчыра размаўляць. Хлапец зразумеў, што ў дзяўчыны прыгожая душа. Ён раптам убачыў ейную прыгожую ўсмешку, зразумеў, што між імі пачынае іскрыцца. Ён пакахаў яе ды было гэта каханне з узаемнасцю.

І ведаў ужо, што самая важная ў чалавека душа, а не выгляд.

**Матэвуш Асташэвіч,**
«Бел-News»



Матэвуш Асташэвіч і Габрыся Вільдовіч



Хатка з Масева. Малюнак Клаўдзіі Ніканчук

# Дзённік
## Сустрэч «Зоркі» (2)

10 чэрвень,
панядзелак,
гадзіна 10:00

За намі ўжо другая сустрэча, на якой я пазнаёмілася з Наталляй Кандрацюк-Свярубскай. Яна на Сустрэчах «Зоркі» ад пачатку. Першы раз прыехала ў Меляшкі, калі ёй было тры гады. Адразу відаць, што цяга да журналістыкі ў яе ад наймалодшых гадоў. Цяпер спадарыня Наталля працуе ў рэдакцыі «Gazeta.pl», падарожнічае і піша пра розныя краіны. У падарожжах найбольш захапіла яе Італія, а яе любімае месца на зямлі гэта вялікая пячора Блю-Грота на Мальце.

(працяг будзе)

Ева Іванюк, Галоўны рэдактар «Бел-News»

**Юля Грэсь**, «Бел-News»

## Людзі

Пра людзей можна
сказаць многа,
Але больш скажуць
яны самі пра сябе!
Што ў чалавечай
галаве не ведае ніхто.
Што адбываецца,
калі ён кахае,
калі весяліцца, ды сумуе,
Калі злосны, стварае зло,
калі крыўдзіць –
не ведае ніхто.
І людзі – загадка, дзіва,
ніколі не ведаеш,
што ў сябра твайго
ў галаве.

# УВАГА КОНКУРС! № 28-19

**Круглае, гарбатае, махнатае, па баках белае, усярэдзіне чорнае. А як прыйдзе бяда, пацячэ вада.**

(В...)

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 28 ліпеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 24: бурак. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Вікторыя Баркоўская, Аляксандра Куптэль, Габрыела Красько з Арэшкава. Віншуем!**

*Гутарка з паэтам, музыкантам, журналістам **Віктарам Сямашкам** з Мінска.*

# Магу пайграць на ўсіх інструментах



**«Шэпты з шафы»: – У якім узросце Вы пачалі цікавіцца музыкай?**

Віктар Сямашка: – Цяжка вызначыць канкрэтны ўзрост, бо ад дзяцінства я любіў нешта прыдумаць. Я расстаўляў нейкія рондалі, нейкія баначкі. Пасля сам запісаўся ў музычную школу. Да нас у першы клас прыйшла настаўніца і сказала, што будзе запісваць на музычныя заняткі. Ніхто не падняў рукі. А я падумаў, што калі руку падыме мая суседка Кацярына, якая мне падабалася, то і я ўздыму. І мы амаль сінхранічна ўзнялі рукі і пайшлі вучыцца на фартэпіяна. Я адвучыўся чатыры гады і мне гэта надаела. Я пайшоў займацца ў іншую школу. Але тады я нейкія пачатковыя веды атрымаў і потым вярнуўся да музыкі ў свядомым узросце. Тады, калі зразумеў, што хачу іграць.

**«Ш. з ш.»: – Якія ў Вас любімыя інструменты?**

В. С.: – Я люблю ўсе музычныя інструменты, якія ёсць на свеце. Для мяне гэта проста цуд! Інструменты, з якімі я найбольш практыкуюся гэта кларнет, флейта, але таксама магу пайграць на ўсім...

**«Ш. з ш.»: – Ці Вы любіце выступаць у групе ці сола?**

В. С.: – Зараз я больш люблю выступаць з гуртом, хаця сваю публічную творчасць пачынаў сола. Ну, гэта не было зусім сола. Вось у гэтым самым рэжыме некалькі гадоў я іграў, а пасля далучыў іншых людзей. Незвычайнае ў музыцы паразуменне між інструментамі і людзьмі.

**«Ш. з ш.»: – А што Вас натхняе да пісання вершаў?**

В. С.: — Напэўна ўражанні, якія я атрымліваю цягам жыцця. Існуе прага падзяліцца сваім назіраннем, думкамі. Вось перад нашай сустрэчай я пайшоў пагуляць сярод лугоў, у лес. Паслухаў як спяваюць птушкі, як каркае грак, як гудуць насякомыя, як шуміць трава. Збіраю такія эмоцыі, уражанні, а яны пасля кампілююцца ў нейкі тэкст, вершы.

**«Ш. з ш.»: – Ці хапае Вам часу на ўсе хобі?**

В. С.: — Гэта вельмі актуальнае пытанне. Ёсць проста праца дзеля грошай і ёсць усё тое, што адчуваю сваім пакліканнем. І нават калі не атрымліваю за гэта грошай, гэта асноўная, жыццёвая задача. Для мяне гэта музыка, паэзія, радыёперадача «Кракатук» на Беларускім Радыё Рацыя. Натуральна, гэта надзвычай цяжка! Такая перадача выходзіць кожны тыдзень і калі ты задумаў зрабіць нейкі цыкл перадач наперад, то гэта ўсё трэба падрыхтаваць раней. На дадатак у мяне маса іншых спраў, абавязкаў. У мяне ёсць сям'я, таму мне трэба ўмець раскладаць сілы. Трэба разумець, што калі ты стаміўся, гэта таксама можа нашкодзіць здароўю. Трэба правільна раскладаць сілы і рабіць усё, што ты



запланаваў, пачынаючы ад самых тэрміновых рэчаў...

**«Ш. з ш.»: – Якую з Вашых прафесій лічыце самай цяжкай?**

В. С.: – Самая цяжкая напэўна тая, якую робіцца дзеля грошай. Чытаю навіны і вяду эфір — гэта рамяство. Калі б я быў забяспечаным у матэрыяльным сэнсе чалавекам, я вёў бы толькі перадачу «Кракатук». Праца, якую ты любіш, заўжды лёгка робіцца. Ты можаш стаміцца, гэта можа каштаваць шмат нерваў і здароўя ды часу, але ты любіш тое і яно ўсё атрымліваецца. А калі ты ўжо нешта зрабіў, чуеш даплыў сіл для таго, каб рабіць нешта наступнае.

**«Ш. з ш.»: – Як Вы разумееце поспех?**

В. С.: — Поспех я разумею мінімалістычна. Мой поспех гэта добрая кампазіцыя ці перадача. Калі гэта музычная перадача, то там няма нічога лішняга, там усё на сваім месцы. Калі гэта верш, то ён дакладны, ёмісты. Калі я адчуваю, што зрабіў добрую рэч — гэта мой поспех. Я не думаю пра тое, што мала людзей прыйшло на канцэрт, як публіка ўспрыняла мяне — гэтых пакут я сябе ўжо пазбавіў. Галоўнае, каб ствараць якасныя, ёмістыя творы.

## Польска-беларуская крыжаванка № 28-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 24-2019:**

Брат, удод, рус, сам, лілея, лебедзь, метал, Аліса, Янка. Абрад, Рым, пас, лес, хіба, ляля, дзед, язык, яда.

Узнагароды, наклейкі, выйгралі **Марыюш Радзецкі, Аляксандра Аніськевіч, Аляксандра Бакун** з ПШ № 1 у Гайнаўцы. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Kopyto | Karp | | Łapa | | Nil / Nos | | | Ślina | |
| Kalina | | | | | | | Kibic | Motyw | |
| Apollo | | | | | | | Mi / Za | | |
| | | | | Chór | | | | | |
| Ptak | | | | | Karp | | | | |
| Silnik | Grypa | | Och! | | | Tato | | | |
| | | | | | Laur | | | | |

# Рознагалоссе ў беларускай музыцы

**Таварыства сяброў Белавежы і Белавежскі асяродак культуры 21 чэрвеня наладзілі цікавы першы канцэрт VII выпуску «Рознагалосся» — беларускага музычнага мерапрыемства, накіраванага да жыхароў Белавежы, наваколля і турыстаў, якіх дзясяткі тысяч у летнім сезоне прыязджаюць у Белавежскую пушчу.**

— «Рознагалоссе» гэта імпрэза беларускай нацыянальнай меншасці, у час якой можна паслухаць нашы песні. У ходзе мерапрыемства папулярызуем беларускую культуру і мясцовыя традыцыі. Мы рашыліся прэзентаваць беларускую музыку розных жанраў і назвалі імпрэзу «Рознагалоссе ў музыцы». Арганізавалі мы ўжо звыш дваццаці канцэртаў. Плануем, каб у час кожнага канцэрта выступіла прынамсі чатырох выканаўцаў беларускай музыкі — ад сучасных эстрадных песень, да народных. Арганізуем «Рознагалоссе» з фінансавай дапамогай Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі і Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, — сказаў дырэктар Белавежскага асяродка культуры і старшыня Таварыства сяброў Белавежы Марк Зубрыцкі, ініцыятар і ад пачатку галоўны арганізатар «Рознагалосся».

Мерапрыемства ладзіцца з 2013 года ў рамках праекта «Рознагалоссе — цыкл музычных прэзентацый беларускай нацыянальнай меншасці». Дырэктар Белавежскага асяродка культуры Марк Зубрыцкі 21 чэрвеняназіраў за арганізацыяй усяго мерапрыемства і адначасна займаўся гукаўзмацняльнай апаратурай. Старэйшыя турысты і жыхары Белавежы вельмі эмацыйна ўспрымалі беларускія песні. Іх бурныя апладысменты падбадзёрвалі спевакоў да выконвання чарговых песень. З ходам музычнага мерапрыемства большала колькасць публікі, у тым ліку і дзетак.

— Раней у Белавежскай гміне было многа дзетак і моладзі, якія, здабыўшы адукацыю, выязджалі жыць у розныя гарады Польшчы. Мая дачка з Кракава прывезла да мяне ўнукаў. Жыву я непадалёк. Пачуўшы музыку, мы прыйшлі паслухаць і паглядзець выступаючых. Жыхарам Белавежы падабаюцца беларускія песні. Я зараз перш за ўсё займаюся ўнукамі, якія тут бегаюць і ўвесь час сачу за імі, — сказала жанчына пенсіённага ўзросту.

— Восенню мінулага года стаў я выконваць абавязкі дырэктара Белавежскага асяродка культуры, а з сакавіка з'яўляюся ўжо яго дырэктарам. У Белавежскім асяродку культуры я між іншым займаўся арганізацыяй музычных мерапрыемстваў. Цяпер будзем пашыраць культурную прапанову нашай установы, між іншым вяртаючы некаторыя раней арганізаваныя мерапрыемствы, напрыклад, мастацкія пленэры, — сказаў дырэктар Белавежскага асяродка культуры Марк Зубрыцкі.

«Рознагалоссе» ўмела вяла Эва Кот, якая цікава распавядала пра паасобных выканаўцаў белавежскага мерапрыемства. Састаўляе яна акампанемент на скрыпцы для спевакоў белавежскага калектыву «Ручаёк». Белавежскаму мерапрыемству рабіў фатаграфіі Матэвуш Гутоўскі — адказны за культурную дзейнасць працаўнік Гміннай управы ў Белавежы і заадно радны Гайнаўскага павета. Першай на сцэне выступіла невідучая Юліта Кічкайла з беларускімі песнямі.

— Я люблю спяваць перад публікай і мяне радуе, калі яна апладзіруе пасля майго выступу, — заявіла Юліта Кічкайла з Гайнаўкі.


Калектыў «Жаваранкі» з Махнатага, якому акампанемент састаўляе Марк Зубрыцкі (стаіць справа)





Вераніка Пташынская

састаўляе дырэктар Белавежскага асяродка культуры Марк Зубрыцкі.

— Мы вельмі цешымся, што ў Белавежы ладзяцца беларускія мерапрыемствы і адбываецца прамоцыя беларускіх песень. Мы хацелі б, каб жывымі былі ў нас беларуская мова і беларуская культура, пра што дбае спадар Марк Зубрыцкі. Арганізуе ён беларускія канцэрты і разам з Анджалінай Масальскай ладзіць беларускія вечарыны ў пачатковай школе, у якіх наш калектыў «Жаваранкі» так-


Зорка канцэрта — калектыў «Аксель» з Нарвы (на першым плане Ян Снарскі)

— Тут вельмі добрая атмасфера для спявання. Вакол шумяць пушчанскія дрэвы і адчуваецца чыстае паветра пасля дожджыку. Сярод публікі можна заўважыць турыстаў, якія моцна апладзіруюць пасля паасобных выступаў, — заявіў мужчына старэйшага ўзросту.

Публіцы спадабаўся выступ беларускага калектыву «Жаваранкі» з Махнатага, якому акампанемент на акардэоне сама прымаў удзел. Арганізаваў Марк Зубрыцкі беларускі калектыў «Ручаёк» у Белавежы і паспяхова займаецца з ім. Аднак мы перш за ўсё ўдзячны яму, што займаецца з намі, — сказалі члены калектыву «Жаваранкі». — Нам прыемна, калі нашы беларускія песні падабаюцца мясцовай публіцы і турыстам, якія прыбылі сюды на адпачынак з розных мясцовасцей Польшчы і ўзнагароджваюць наш спеў моцнымі воплескамі.

— У калектыве «Жаваранкі» мы стараемся захаваць нашу беларускую песню і культуру. Я быў ініцыятарам заснавання калектыву і ўдалося мне прыцягнуць людзей да яго. Мы спяваем з 2011 года, а назву «Жаваранкі» атрымалі ў 2012 годзе. Мы любіцелі беларускіх народных песень і такія творы спяваем у час фестывалю «Беларуская песня» і іншых мерапрыемстваў. Мы перш за ўсё выступаем у Гайнаўскай гміне. На калядных аглядах выступаем з калядкамі. У рэпертуары маем некалькі песень на польскай мове і песні поснага перыяду. Касцюмы атрымалі мы з Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Паколькі наш калектыў дзейнічае пры Добраахвотнай пажарнай камандзе ў Махнатым, а мы яе члены, у нас ёсць таксама форма пажарнікаў, у якой часам выступаем, — сказаў арганізацыйны кіраўнік калектыву «Жаваранкі» Аляксей Герасімюк.

— Мы спяваем па-беларуску, прымаем удзел у многіх беларускіх мерапрыемствах, якія ў нас ладзяцца. Зараз у тэлевізары і камп'ютары перш за ўсё гучыць польская мова і мы павінны ўсімі сіламі намагацца захаваць родную мову, бо без яе не будзе і беларускай нацыі. Я закончыла вучобу ў Гайнаўскім белліцэі і так склалася, што стала жыць у Гданьску. Калі я была ва ўправе Гданьскага аддзела БГКТ, мы арганізавалі многа беларускіх мерапрыемстваў. Я спявала там у беларускім хоры «Жаваранкі», які дабіваўся многіх поспехаў. Калі я вярнулася ў роднае Махнатае на пастаяннае жыхарства, хацелася мне таксама нешта тут рабіць у карысць беларускай культуры. Калі з намі стаў займацца Марк Зубрыцкі, мы штогод выступаем у Белавежы на «Рознагалоссі», якое ён арганізуе, — сказала Анна Іванюк з Махнатага, удзельніца калектыву «Жаваранкі».

Займальна заспявала беларускія песні вучаніца Гайнаўскага белліцэя Вераніка Пташынская, якая выступіла сола. Спявае яна таксама ў белліцэйскім калектыве «Знічка».

— Я ўжо некалькі гадоў выступаю сола. Апрача выступаў у «Знічцы», спяваю таксама ў дуэце з сябрам Андрэем Бабулевічам у час школьных мерапрыемстваў і тады выконваем беларускія патрыятычныя творы. У час беларускіх фэстаў я найчасцей спяваю беларускія меладычныя песні, бо яны найбольш падабаюцца публіцы, — заявіла белліцэістка Вераніка Пташынская, лаўрэатка, між іншым, Міжнароднага конкурсу песні імя Анны Герман.

Некалькі разоў выходзіў на сцэну Ян Шыманюк з Семяноўкі, які расказваў анекдоты і вёў гутарку з публікай. Раней спяваў ён у калектыве «Нараўчанкі» і ў вакальным калектыве з Дубін, а пасля выступаў у дуэце «Маня і Ваня». Зараз Ваня выступае сола. Зоркай канцэрта быў калектыў «Аксель» з Нарвы. Выступіў ён з рэпертуарам, які выконвае на вяселлях і танцавальных забавах.

— Мы гралі на забавах у Моры, Ласінцы і іншых вёсках, але перш за ўсё спяваем на вяселлях. Я пішу словы і музыку для нашых твораў, але выконваем многія агульнавядомыя песні ў сваёй апрацоўцы. Прыблізна палова нашага рэпертуару гэта беларускія песні, але многа выконваем песень жанру дыскапола на польскай мове. Прымаем удзел у аглядах музыкі дыска-пола, якія арганізуюцца ў Польшчы. Спяваем таксама на закрытых мерапрыемствах, якія ладзяць, напрыклад, прадпрыемствы для сваіх працаўнікоў. Калі праглянуць увесь наш рэпертуар, будуць там сотні песень, — распавёў кіраўнік калектыву «Аксель» з Нарвы Ян Снарскі, які выступае разам са сваім сябрам Славікам.

Публіка белавежскага «Рознагалосся» танцавала пад гукі калектыву «Аксель» з Нарвы.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

https://utwlowicz.pl

# У коле малой айчыны

**12 чэрвеня ў Галоўнай школе сельскай гаспадаркі ў Варшаве адбылася сустрэча ў рамках цыкла „Блізкія, знаёмыя і... незнаёмыя" з Зояй Сачко. Мерапрыемства пад лозунгам „У коле малой айчыны" аздобіла выступленне бельскага калектыву „Жэмэрва". А сустрэчу зладзіла ўпаўнаважаная рэктара вучэльні па справах культуры вясковых рэгіёнаў прафесар Тэрэса Занеўская. Спадарыня прафесар раней шмат гадоў працавала ў Беластоцкім універсітэце, жыва цікаўлячыся культурным жыццём нашага мясцовага беларускага асяроддзя. І пакуль там што да чаго, то я паставіў пытанне:**

— Што Вы зараз бачыце на нашым беларускім Парнасе?

— Я вельмі ўзрадавалася і было мне гэта прыемнай нечаканасцю, калі атрымала перасылку ад спадарыні Зоі Сачко з яе апошнім, велічным паводле мяне томікам. Вядома, было мне вельмі міла, што хаця я па-за Беластокам і па-за Беласточчынай амаль дваццаць гадоў, то аднак пра мяне помніце. І гэта была мне вельмі мілая нечаканасць. Мяркую, што не толькі гэтым томікам, але і ранейшымі спадарыня Зоя Сачко далучылася да таго Парнасу. Гэта знакаміты томік. Знакаміты, вельмі амбітны. Вершы, якія апынуліся ў гэтай кніжцы гэта вельмі роўныя творы. Як я гартала гэтую кніжку, то думала пра Шымборскую, якая шліфавала свае тэксты. І калі выдавала томік, выдавала ад часу да часу, і няммога ў ім было вершаў, але ўсе яны былі такія, што нельга было прычапіцца ні да задумы, ні да рэалізацыі таго верша. Таму прыгадалася мне такое выказванне Канвіцкага — я яго цытавала ў рэцэнзіі томіка спадарыні Сачко, што калі камусь лёгка пляцецца, то наогул абы-што яму пляцецца. Апошні томік пані Сачко быў у 2000 годзе, значыць пасля дзевятнаццаці гадоў паказалася кніга. Але варта было чакаць тыя 19 гадоў. Гэта вершы, якія немагчыма чытаць між абедам і чорнай кавай. Кожны з іх нясе пэўную пасылку. І зноў прыгадалася мне такое выказванне Вітальда Ляшчынскага, рэжысёра такіх фільмаў, як м.інш. „Канапелька" ці „Калос", які сказаў, што яго для экранізацыі цікавіць толькі такая літаратура, у якой чуваць як ляціць птушка. Што гэта абазначала? Гэта абазначала метафізіку, што яго цікавяць такія аповесці, якія нясуць з сабою нейкі агульначалавечы і метафізічны пасыл, значыць такія, якія кранаюць нашу духовасць. І я мяркую, калі чытала гэты томік Зоі Сачко, што гэта менавіта такая кніжка, у якой чуваць як ляціць птушка. Што там кожны радок даказвае нам такую простую думку, што кожная, нават найзвыклейшая рэч, мае свой глыбока прыхаваны метафізічны сэнс і таму дастойная здзіўлення і захаплення. Такая лавачка, якая ўрастае ў зямлю, на якую сядалі пакаленні, а можа сядае трэцяе ці чацвёртае пакаленне і з сабою размаўляюць, то тая лавачка абазначае азначэнне таго месца, дзе той, што сядае сёння, мае глыбокую свядомасць, што тут сядалі прадзеды, дзяды, бацькі і тут сёння сядаю я. Значыць штось, што кранае нашу тоеснасць. І мяркую, што гэтая кніжка вельмі прыгожа ўпісваецца ў такую канвенцыю, вельмі сёння ўсім хіба цікавую, у шырэйшым значэнні чым край ці мясцовая айчына — гэта менавіта малая айчына. Малая айчына, найменшая рэч паспалітая, з якой, у прынцыпе, усё пачынаецца. Пачынаецца наша жыццё, пачынаецца наша тоеснасць, ну і вельмі часта таксама на вечны спачын таксама вяртаемся ў гэтае месца.

— А як з Вашага пункту гледжання выглядае шырэйшая панарама нашага Парнаса?

— Мяркую, што маю меншыя магчымасці для такога назірання, бо не ўдзельнічаю ўжо ў сустрэчах „Белавежы". У Варшаве можна было калісь купіць адносныя кнігі ў кнігарні па вуліцы Гагарына, але здаўна ўжо там іх няма. Я атрымліваю значна менш — як прышлюць мне аўтары, або калі штось убачу ў спадарства Шведаў. Таму складана мне цяпер меркаваць на хаду, бо маю меншыя магчымасці чытання. З таго, што мне вядома, то надалей функцыянуюць тыя самыя прозвішчы. Бачыла апошнім часам томік Надзі Артымовіч; напэўна гэта вельмі добрая кніжка, але гэта падборка вершаў з ранейшых томікаў — не знайшла я там нічога новага. Але кніга напэўна вельмі добрая. І не ведаю, хто яшчэ што выдаў, бо да мяне навінкі не даходзяць.

https://utwlowicz.pl

■ Прафесар Тэрэса Занеўская (злева) з Зояй Сачко

А адкрываючы мерапрыемства прафесар Тэрэса Занеўская сказала шырокай аўдыторыі:

— Беларусы з'яўляюцца шматлікай нацменшасцю ў Польшчы, але перакладаючы гэта на нашы сустрэчы, то яны так часта не выступалі. Ну, была Кася Дмітрук і прафесар Альжбета Чыквін. Аднак мяркую, што ўсё перад намі. Я дзесяць гадоў свайго жыцця прысвяціла беларускай літаратуры польскіх беларусаў, апублікавала тры кніжкі па гэтай тэме, а пасля занялася чымсь іншым і памяняла сваё месцазнаходжанне. І вельмі ўзрадавалася, калі атрымала па пошце пасылку, а ў той пасылцы быў томік спадарыні Зоі Сачко „Пака", значыць „Дорóкі". Пані Зоя Сачко піша ў дыялекце сваёй роднай вёскі і на пытанне, ці гэта не звужае кола ейнай публікі, адказала, што яна хоча быць блізкай людзям, а не вялікай. Але такім чынам, цераз такую блізкасць, становіцца вялікай. Гэтая кніга мне вельмі падабаецца; дарэчы, усе томікі спадарыні Зоі Сачко вартыя ўвагі; іх нямнога. Мяркую, што частата публікавання яе кніжак парытэтная да частаты, з якой публікавала свае кнігі Шымборская. Апошні томік, які спадарыня Сачко апублікавала, паказаўся ў 2000 годзе, значыць 19 гадоў трэба было чакаць чарговага томіка, які зноў не такі абшырны. Але кожны з тых вершаў схіляе да роздумаў. Гаворкі і мовы беларуская і польская з адной славянскай сям'і і калі крышку натужыцца можна зразумець, што спадарыня Сачко піша. Гэта вершы, якія патрабуюць засяроджання, рэфлексіі, цішы. Бо так сапраўды з цішы і са здзіўлення, і з малітвы нараджаецца паэзія. Вершы спадарыні Сачко паказваюць нам, што кожная найдрабнейшая рэч мае свой глыбока прыхаваны метафізічны сэнс і таму вартая захаплення. І з задумы над светам нараджаецца паэзія. І калі ў роднай вёсцы спадарыні Сачко ёсць урослая ў зямлю лавачка, на якую сядаюць жанчыны і гутараць на такой мове, на якой спадарыня Сачко піша. Быццам звычайная рэч, калі ў шэрую гадзіну прыселі суседкі і гутараць. Але тая лавачка ўрасла ў зямлю. І яны ведаюць, што на яе сядалі іхнія продкі, а неўзабаве будуць сядзець і нашчадкі. І гэта вельмі важнае, важнае не толькі для Студзівод, для Вулькі, для Орлі, для Бельска ці для Беласточчыны. Кожны з нас мае сваю мясцовую рэч паспалітую і сваё месца, адкуль выйшаў. Менавіта свядомасць таго месца дае сілу таму ўсяму, што адбываецца ў жыцці. Тое, чаго дасведчым сёння, пра што будзем гаварыць сёння, датычыць кожнага з нас, бо кожны з нас з адкульсь, з якойсь малой айчыны, мясцовай рэчы паспалітай. І кожны з нас нясе пэўныя вартасці, якія вынес з таго месца. Гэта старыя праўды, з антычнасці. З антычнасці маем такое выказванне *дотык Антэя*. Што гэта такое? Міфічнага Антэя нельга было забіць, пакуль ён стаяў на зямлі, на якой нарадзіўся. І толькі Геракл быў вымушаны пакарыстацца фартэлем, каб адарваць яго ад зямлі і забіць яго ў палёце. Бо калі стаяў на зямлі, то быў магутны сілай таго месца. Віншую гэтай кніжкі і радуюся, што магла стаць яе чытачкай і што не забылі Вы пра мяне. Варты гэты твор папулярызацыі, не толькі ў гэтым месцы, але і ў іншых, што дарэчы і адбываецца незалежна ад нашай сённяшняй сустрэчы.

І дадала:

— Хачу вам прадставіць калектыў, які з'яўляецца вынікам пэўнага праекта, пэўнай задумы, але галоўным чынам агромнай пасіі гэтых маладых людзей. Напэўна дзякуючы аніматару, які знайшоўся сярод іх. Прозвішча Дарафея Фіёніка ўжо даволі вядомае ў коле тых людзей, якія цікавяцца музыкай.

Далей прафесар Тэрэса Занеўская прывітала ўсіх прысутных, у іх ліку і сяброў Універсітэта трэцяга веку з Ловіча.

Са спадарыняй Зояй Сачко чытачы мелі нагоду тут ужо знаёміцца, але варта яшчэ прывесці пару слоў, якія яна сказала на сустрэчы наконт яе паэтычнай схільнасці:

— Што мяне захапіла? Традыцыі, звычаі, святы. Але не толькі; таксама тыя простыя сялянскія дзеянні. Як я стала пісаць на гаворцы? Калі была ў ліцэі прачытала кніжку Расула Гамзатава „Мой Дагестан". Яна была напісана на аварскай мове, на мове невялікай моўнай групы. І тады я падумала, што і я ў падобнай сітуацыі — невялікая група, якая гаворыць толькі на сваёй мове, выказвае на ёй усе свае пачуцці — дык чаму ж і мне так не пісаць. І стала пісаць. І дэбютавала я ў 16-гадовым узросце ў беларускім тыднёвіку „Ніва" вершам „Вечар капусты".

Паэтэса прачытала некалькі сваіх вершаў, так у арыгінале, як і ў перакладах Віктара Шведа на польскую мову.

Госці з Бельска падарылі спадарыні Тэрэсе Занеўскай традыцыйны падляшскі каравай. А гурт „Жэмэрва" паказаў абрад куста, спяваючы нізку падляшскіх песень. Пад кіраўніцтвам Анны Фіёнік у Варшаву ў складзе гурта прыехалі Максім Фіёнік, Вераніка Кардзюкевіч, Уля Алексяк, Інеса Гапанюк і Дар'я Мартыновіч.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**







Адным з найбольш вядомых месцаў для турыстаў у Беларусі за апошнія пару дзясяткаў гадоў стаў старажытны Нясвіж. Цяпер ён сапраўды варты наведвання і знаёмства са старажытнай гісторыяй. Паколькі не ў кожнага, хто хацеў бы прыехаць у Нясвіж і пахадзіць па яго замку, ёсць такая магчымасць, то, верагодна, для такога чалавека будзе карысным сайт у інтэрнэце, дзе выдатна прадстаўлены гэты нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік.

Каб зрабіць віртуальную экскурсію ў Нясвіж, варта набраць на сваім камп'ютары адрас **https://niasvizh.by.** Перад нашымі вачыма адкрыецца захапляльнае выяўленне замка і наваколля з вышыні птушынага палёту. Прычым выяўленне рухомае, і гэта надае яму большую рэалістычнасць.

Уверсе і пад нізам фотаздымка знаходзяцца выйсці на разнастайныя рубрыкі. Праўда, многія з іх гэта падрубрыкі іншых, як напрыклад, рубрыка „Наведвальнікам". Яна змяшчае выйсці на аб'екты, дзе праводзяцца асобныя экскурсіі. „Гістарычная каштоўнасць аднаго з самых старажытных палацава-замкавых комплексаў Еўропы, зачаравальныя сваёй прыгажосцю палацавы ансамбль і прылеглыя да яго паркі, аўтэнтычная атмасфера сярэднявечча і сучасныя тэхнічныя магчымасці робяць музей-запаведнік „Нясвіж" унікальнай пляцоўкай для арганізацыі мерапрыемстваў розных фарматаў", — паведамляецца ў той жа рубрыцы пад загалоўкам „Унікальныя магчымасці".

Больш падрабязна пра палацава-замкавы ансамбль распавядаецца ў аднайменнай падрубрыцы. Адсюль мы даведаемся, што яго будаўніцтва пачалося ў 1583 годзе. „Да пачатку XVII ст. будаўнічыя працы былі галоўным чынам завершаны. Вал вышынёй да 20 метраў быў умацаваны каменнем. У XVII ст. па вуглах бастыёнаў былі збудаваны 4 абарончыя вежы. Падыход да замка з захаду быў умацаваны трохкутным шанцам, да якога вялі дзве пад'язныя дарогі", — прэзентуе сайт галоўную славутасць Нясвіжа. Сваю асаблівую прыцягальнасць да турыстаў палацавы ансамбль набыў пасля 2012 года, калі ў ім былі завершаны рэстаўрацыйныя працы і для наведвальнікаў адкрыліся экспазіцыйныя залы.

Яшчэ адной жамчужынай Нясвіжа з'яўляецца яго ратуша, бо яна найстаражытная сярод пабудоў гарадскога самакіравання, якія захаваліся на тэрыторыі Беларусі. „З 1997 па 2004 гг. на помніку архітэктуры XVI—XVIII стст. нясвіжскай ратушы, праводзіліся рэстаўрацыйныя работы. У выніку фасады будынка набылі свой першапачатковы выгляд, аднаўленыя верхнія ярусы вежы, ізноў (як і ў XVI ст.) вежу ўпрыгожылі гарадскі гадзіннік і назіральная пляцоўка", — распавядаецца ў падрубрыцы „Ратуша".

Адметнасцю Нясвіжа з'яўляюцца і адроджаныя паркі на тэрыторыі каля замка. На сённяшні дзень зялёны ансамбль уключае ў сябе пяць паркаў: Замкавы, Стары, Японскі, Англійскі, Марысін. Іх агульная плошча складае 66 гектараў.

Пра тое, колькі каштуюць экскурсіі па розных славутасцях Нясвіжа, можна даведацца ў рубрыцы „Паслугі і кошты". Акрамя вышэйпазначаных, наведвальнікі могуць зацікавіцца „Днём імянінніка ў музеі", базай экатурызму альбо арэндай залаў палацавага ансамбля для правядзення канферэнцый, семінараў, прэзентацый і іншых мерапрыемстваў.

Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА



## 115 гадоў з дня нараджэння
# Алесі Александровіч

Беларуская літаратуразнаўца, спявачка, акторка, педагог Алеся Александровіч нарадзілася ў Мінску 12 ліпеня 1904 г. Сястра больш вядомага паэта Андрэя Александровіча, вязня сталінскіх канцлагераў, але чалавека неадназначнай рэпутацыі. Замужам Алеся Александровіч была за Міхасём Марозам, які быў савецкім дыпламатам.

У 1920 г. Алеся Алескандровіч брала ўдзел у працы клуба беларускай мастацкай інтэлігенцыі. З 1920 г. таксама працавала ў Беларускім дзяржаўным тэатры. Сябравала з літаратарам Міхасём Чаротам і ў 1921 г. стала першай выканаўцай ролі Алесі ў музычнай драме паэта „На Купалле" ў Беларускім дзяржаўным тэатры. Гэтая роля была напісана Чаротам адмыслова для яе.

Алеся Александровіч брала актыўны ўдзел у рабоце гуртка „Беларуская хатка". Гэты культурніцкі клуб стаў знакамітым праз наладжванне беларускага жыцця, аб'яднанне беларускай моладзі. Як адзначала Алеся ў анкеце пры паступленні ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, яна цягам некалькіх гадоў спявала ў Беларускім народным хоры пад кіраўніцтвам дырыжора і кампазітара Уладзіміра Тэраўскага, куды прыцягнула і свайго брата Андрэя. Слухаць сольнае выкананне Алесі вельмі любіў Янка Купала. Цёпла і пранікнёна яна спявала песні ў апрацоўцы Дзмітрыя Агрэнева-Славянскага „Чалавек жонку б'е", а таксама „Каля хацінкі". Не праходзіла без бісаў, як успамінаў Кастусь Пуроўскі, і песня на словы Купалы „Шумныя бярозы", якую выконвалі Алеся Александровіч, Ганна Бялькевіч і Язэп Васілеўскі.

Беларускі актор і тэатральны дзеяч Югген Рамановіч так пісаў пра Александровіч: „...была ўжо добра вядомай у Мінску салісткай з непараўнанай дзявочай абаяльнасцю і рэдкім па чысціні лірычным сапрана. Усім нам Алеся ў тыя гады здавалася ідэальным увасабленнем беларускай дзяўчыны, якая нібы сышла са старонак паэзіі Янкі Купалы".

У 1928 годзе Александровіч скончыла БДУ. Склала падручнікі „Родная краіна" (пазней „Роднае слова") для 4-га класа (дапаможнік вытрымаў ажно 13 выданняў, 1945-1957), „Кніга для чытання ў першым класе" (4 выданні, 1934-1937). Перавыдаваліся „Хрэстаматыя па літаратуры" для 3-га і 4-га класаў (1938-1941, супольна з іншай аўтаркай) і чытанне для 7-га класа „Родная літаратура" (1945-1947).

Пасля Другой сусветнай вайны Алеся Александровіч працавала ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Пісала артыкулы, уступныя словы да выданняў, успаміны пра Янку Купалу, Цётку, Францішка Багушэвіча, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова ды іншых. Перакладала на беларускую мову кнігі для дзяцей.

Александровіч была знаёмая з Янкам Купалам яшчэ з пачатку 1920-х гадоў. Часта бывала на кватэры паэта. Улетку 1933 г. па запрашэнні Купалы з жонкай адпачывала ў Капылі ў доме Марозаў, бацькоў мужа Александровіч. Александровіч — складальніца жыццёвага і творчага летапісу Янкі Купалы да 1917 года, аўтарка ўспамінаў пра паэта.

Асноўныя творы і працы Александровіч: „Іван Дамінікавіч Луцэвіч (Янка Купала)" („Савецкі селянін", 9 снежня 1945 года), „Сябра моладзі" („Сталинская молодежь", 29 чэрвеня 1945 года), „Аб дакастрычніцкай творчасці Янкі Купалы" (часопіс „Полымя", 1947 г., № 6), „Паэма Янкі Купалы «Адвечная песня» ў ацэнцы дарэвалюцыйнай крытыкі" (часопіс „Беларусь", 1947 г., № 6), успаміны ў зборніку „Янка Купала" (Мінск 1952).

Памерла Алеся Александровіч у Мінску досыць рана — 25 жніўня 1947 года, ёй было толькі 43 гады.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

Wójt Gminy Gródek
Gminne Centrum Kultury w Gródku
Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne
serdecznie zapraszają na

**XX MIĘDZYNARODOWY FESTIWAL**

Войт Гміны Гарадок
Гмінны Цэнтр Культуры ў Гарадку
Беларускае Грамадска-Культурнае Таварыства
сардэчна запрашаюць на

**XX МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ**

# Siabrouskaja Biasieda
# Сяброўская Бяседа

**GRÓDEK - UROCZYSKO BORYK 27 LIPCA 2019, GODZ. 17^00^**
**ГАРАДОК - УРОЧЫШЧА БАРЫК 27 ЛІПЕНЯ 2019, 17^00^ ГАДЗІНА**

IWICA (Białoruś)
KUPALINKA (Białoruś)
STRECZANIJE (Białoruś)
UŁADARY (Białoruś)
ĆWIECIEŃ (Białoruś)
NIEMORALNA PROPOZYCJA
ZESPOŁY Z GMINY GRÓDEK
OBRAZ KONTROLNY
DOBRYJE GRAJKI
SERVER DANCE
SOUVENIR
ZORKA
GAJ
ZOLOTO

ІВІЦА (Беларусь)
КУПАЛІНКА (Беларусь)
СТРЭЧАННЕ (Беларусь)
УЛАДАРЫ (Беларусь)
ЦВЕЦЕНЬ (Беларусь)
НЕМАРАЛЬНАЯ ПРАПАНОВА
КАЛЕКТЫВЫ ГМІНЫ ГАРАДОК
ВОБРАЗ КАНТРОЛЬНЫ
ДОБРЫЯ ГРАЙКІ
SERVER DANCE
SOUVENIR
ЗОРКА
ГАЙ
ЗАЛАТО

GWIAZDA WIECZORU / ЗОРКА ВЕЧАРА



**ADAM ASANOV**
WOKALISTA ZESPOŁU PIEASI
TWÓRCA HITU „BAŁHANICA"

W PROGRAMIE: KONCERTY ZESPOŁÓW Z POLSKI I BIAŁORUSI, KONKURSY, DEGUSTACJA KUCHNI REGIONALNEJ, POKAZ FAJERWERKÓW, ZABAWA LUDOWA, STREFA DLA DZIECI, WYSTAWCY, GASTRONOMIA ORAZ INNE ATRAKCJE
У ПРАГРАМЕ: КАНЦЭРТЫ КАЛЕКТЫВАЎ З ПОЛЬШЧЫ І БЕЛАРУСІ, КОНКУРСЫ, ПРЭЗЕНТАЦЫІ РЭГІЯНАЛЬНАЙ КУХНІ, ПАКАЗ ФЕЕРВЕРАК, ЗАБАВА, АТРАКЦЫЁНЫ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ, СТЭНДЫ ЭКСПАНЕНТАЎ, ГАСТРАНОМІЯ ДЫ ІНШЫЯ АТРАКЦЫЁНЫ

# Адгаданка

**1.** рошчына для самагонкі, **2.** страва з буракоў і іншай гароднiны, **3.** між снеданнем і вячэрай, **4.** між Уругваем і Венесуэлай, **5.** сельскагаспадарчая цяглавая машына, **6.** доўгая шырокая адзежына ў выглядзе плашча, **7.** рытуальная забарона, **8.** адасобленая сялянская сядзіба, **9.** кавалак бервяна на паліва, **10.** арамат.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | | | | | |
| | 2 | 3 | | | | | 4 | | | |
| | 5 | | | | | | 6 | | | |
| | | | | | | | | | | 7 |
| | | | | 8 | | | | 9 | | 10 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 24 нумара**

Ладан, суп, май, пастар, форт, Бельгія, аднадумніца, снягір, куча, Шанхай.

Рашэнне: **Сам пад фігурай, а чорт пад скурай**.

# 14.07 — 20.07

**(22.03. — 20.04.)** 15-17.07. можаш «папштыкацца» з сябрамі. 15-16.07. можаш нарвацца на працiўніка, якому не дасі рады. Заляцяць табе ў галаву незвычайныя ідэі. Дзякуючы адвазе і свядомасці мэты таго, куды ідзеш, вельмі шмат чаго добрага зробіш. Адчуеш сябе панам свайго жыцця! Не пі халодных напояў, не накідайся на марозіва.

**(21.04. — 21.05.)** 15-19.07. нудныя і «паспалітыя» абавязкі могуць цябе прыгнятаць. Дасканалы час на водпуск ці хоць кароценькі адпачынак. Летняе каханне паявіцца хутчэй, чым спадзяешся! Шмат нагод для фліртавання. На працы, калі хто табе хоча зашкодзіць, справішся з ім і яго інтрыгамі. Асабліва, калі робіш кар'еру або сядзіш на высокай пасадзе — зайздроснікі будуць аж кіпець! Магчымая добрааплатная халтура. 19-20.07. сем раз адрэж, пакуль скажаш.

**(22.05. — 22.06.)** 19-20.07. вельмі добра дагаворышся з блізкімі. Імпрэзы і нарады. На працы не даказвай, што можаш, бо канкурэнцыя схоча зайграць на тваёй амбіцыі. Стус папер перастане страшыць на тваім стале. Мноства энергіі, але не рызыкуй. Асабліва не купайся ў недазволеным месцы. Нагода для дадатковых заробкаў. Пераканаешся, што на суседзяў варта разлічваць часам лепш чым на сям'ю.

**(22.06. — 23.07.)** 19-19.07. можаш адчуць, што з табою не лічацца. З 19.07. (да 23.07.) можаш «зайграць на носе» былому (былой). З 20.07. (да 22.07.) інвестуй у вучобу, незалежна ад таго, колькі табе гадоў і колькі табе засталося да пенсіі. Не хваліся маёмасцю і поспехамі.

**(24.07. — 23.08.)** 14-16.07. хтосьці схоча на табе адпомсціцца. 14.07. можа паявіцца асоба, з-за якой табе хутчэй заб'ецца сэрца. Зможаш перамагчы што заўгодна, пазмагацца за сваё. Ільвы з першай дэкады могуць адысці з працы і заснаваць свой бізнес. У тваіх руках тузы. Будуць такія, што будуць табе зайздросціць і захочуць шкодзіць. Нават з сям'ёй можаш папштыкацца.

**(24.08. — 23.09.)** 16-20.07. здзейсніцца твая мара аб вялікім каханні. 20.07. (да 22.07.) можа цябе азарыць і зразумееш сэнс шмат якіх спраў. 15-19.07. твая палова ўсвядоміць табе, што жарснасць гэта мала — а дзе блізкасць, чуласць, зразуменне?.. 16-20.07. акажацца, што тваё прадчуванне слушнае наконт таго, што гэта асоба — добры кандыдат на кампаньёна на ўсё жыццё. 14.07. можаш усвядоміць, што цяперашні занятак гэта не тваё, але з новай працай можа быць цяжка.

**(24.09. — 23.10.)** Будзеш практычны, з падтрымкай Юпітара. Рабіўшы рамонт, разлічвай на спецыялістаў. 15-19.07. зважай на выдаванне грошай, бо можаш раскашэліцца да апошняга граша. З 19 (да 23.07.) пільнуйся ад інтрыг і абмоў, бо могуць папсаваць тваю рэпутацыю. Глядзі на ўсё рацыянальна і цвяроза. 19.07. можаш няслушна палічыць кагосьці сваім ворагам.

**(24.10. — 22.11.)** Да мэты будзеш ісці найцяжэйшым шляхам. 16-20.07. можаш выказацца мастацкім талентам. З 19 (да 23.07.) можаш стаць ахвярай маніпуляцыі або эмацыянальнага шантажу. 14-16.07. нарвешся на асобы, якія будуць хацець даказаць, што яны найлепшыя і самыя разумныя; не варта з імі сапернічаць. Выедзь кудысьці хаця б на выходныя.

**(23.11. — 22.12.)** 14-16.07. асцерагайся кагосьці каварнага і помслівага. 15-17.07. можаце пасварыцца ў пары, але нічога, галава ўверх! Гуляй, знаёмся, але з асобай з якой пазнаёмішся 19.07. (да 23.07.) будзь асцярожны! Выязджаючы з хаты, застрахуй яе, добра зачыні і папрасі суседзяў, каб яе дагледалі. 14.07. не аддавай праектаў, бо можа быць мноства памылак. Еж гародніну і садавіну, пі многа вады.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш у цэнтры ўвагі. Смела, але і цярпліва пойдзеш да мэты. 15-17.07. адкрыюцца перад табою новыя магчымасці і могуць здзейсніцца твае мары. 14-16.07. адчуеш канфлікт паміж працай і сямейным жыццём. 15-19.07. адкрыеш праўду пра сакрэты твайго партнёра; зрабі рахунак свайго сумлення і разлічыся з кожным. Спажывай крэмній і кальцый, пі ёгурты, ваду з лімонным сокам.

**(21.01. — 19.02.)** 14.07. нечаканая любоўная прыгода. Многа нечаканых здарэнняў. Адвага, самаўпэўненасць. Справішся з кожнай сітуацыяй. Будзеш шчыры і непасрэдны — гэта прынясе адны поспехі. Ды лепш не вяжыся з асобай, з якой спалучаюць цябе інтарэсы. Старайся суцішыцца, адпачыць, не рэагаваць на ўсё замоцна эмацыянальна. Глядзі, што маеш на талерцы.

**(20.02. — 21.03.)** 15-17.07. цяжка табе будзе захаваць памяркоўнасць ва ўсім. 16-20.07. будзеш папулярны і з'яднаеш для сябе людзей; рамантычныя сустрэчы; прыпомняцца старыя сябры. З 19.07 (да 23.07.) можаш ублытацца ў раман з занятым чалавекам і перажыць расчараванне; сярод знаёмых можа паявіцца фарбаваны ліс.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Кожны атам і кожная малекулка...

Знікаюць паступова з нашай тэрыторыі аўтобусныя маршруты. Вось калісь, бадай яшчэ дзесяць гадоў таму, у Баброўнікі было тры аўтобусы ў суткі, а яшчэ раней то яны нават у Коматаўшы даязджалі. І неяк так мне незаўважна зніклі тыя баброўніцкія курсы як камень у ваду.

І мазгаваў я, як цяпер у Баброўнікі дастацца на публічным транспарце. Яшчэ пару тыдняў таму можна было ў пяць гадзін раніцы забрацца з Беластока ў Гарадок і, пачакаўшы там каля гадзіны, забрацца на аўтобус у Зубры, а з Зуброў — так як і калісь зубры, што далі назву вёсцы — прагуляцца каля дзесяці кіламетраў пяшком у Баброўнікі, а адтуль чарговыя дзесяць кіламетраў у Крушыняны, адкуль яшчэ курсіруюць пасажырскія аўтобусы і ў Саколку, і ў Беласток. Толькі вось не хацелася надта рана ўставаць і валачыцца пасля ў непагадзь, пільна пільнуючы і сваёй, і гадзіннікавай хады.

Канаюць нашы аўтобусныя маршруты, але вось жа ўваскрэслі некаторыя маршруты чыгуначныя, на якія можна забрацца байкам і пасля калясіць салідне́йшы набор кіламетраў. Праўда, той маршрут у напрамку Баброўнік уваскрос толькі часткова, бо не ў Зубкі, толькі да чыгуначнай станцыі Валілы; і то па ўікэндах. Але недахоп каля пятнаццаці кіламетраў здаваўся быць цалкам пад сілу. Да таго ж сёлета пайшлі паязды ў свята Божага Цела. І я ў той менавіта дзень выбраўся ў веласіпедную працэсію менавіта ў Баброўнікі.

З Валіл Дварцовай вуліцай дакаціўся да сумежнага Гарадка. Гарадоцкія вуліцы яшчэ не былі заняты святочным шэсцем, касцёл адкрытымі дзвярамі яшчэ запрашаў вернікаў. А і царкоўныя дзверы былі адкрыты, але там адпраўлялі пакойніка. Каля Гарадоцкага цэнтра культуры працавала крамка, да якой стаяла чародка пакупнікоў. А далей даволі бязлюдна. Па асфальце дакаціўся я да жвіроўкі ў Страшава...

А жвіроўка гэта дынамічная структура, якая намнога больш спантанна чым асфальт супрацоўнічае з коламі веласіпеда. Жвіровінкі са славянскай гасціннасцю вітаюць веласіпедныя колы, абнімаюць іх шчыра і неахвотна вызваляюць; гэта не тое, што амаль бяздушны асфальт, які ганарыста, як пан мужыка, адчужвае байкавыя колы. А жвіроўка з Белявіч у Страшава не надта ўтрамбаваная, веласіпед каціцца па ёй быццам па сухім балоце, грэзне. І часта трэба злазіць і пхаць той веласіпед цераз жвір як міфічны Сізіф наканаваны яму валун.

Страшава раскінута па хутарах і толькі нейкага роду цэнтр вёскі захаваўся ў месцы, дзе зараз расходныя дарогі. І бязлюдна там зусім, па тых жвіроўках, якія, магчыма, былі ў даўніну вясковымі вуліцамі Страшава. Ну, не ў Страшава ж выбраўся я, а ў Баброўнікі. Таму і пакаціўся я далей на ўсход, у лес, у лабірынт лясных дарог без паказальнікаў, быццам у лабірынт жыццёвых дарог, таксама без паказальнікаў будучыні.

І так валокся я наўздагад па тых лясных раздарожжах, грэючы сябе думкай, што вось неўзабаве дакачуся да Зубкоў, да Нарэйкаў, да Габят, да Баброўнік. Перада мною паказалася нейкая абгароджаная спортпляцоўка... Прыглянуўся я бліжэй нечаканаму ландшафту і на далёкім плане ўбачыў купалы гарадоцкай царквы. Вось і дакаціўся па пясочна-лясной арбіце зноў амаль у Гарадок, у Зарэчаны, на тамашні адпачынкавы вадаём.

Часу аставалася ў мяне яшчэ шмат і рашыў я ўсё ж такі зноў карабкацца на ўсход, у тую мясцовасць, якая віднее на дарожных паказальніках нашых аўтамагістраляў, а пра якую няма згадкі ў найглыбейшай навакольнай глыбінцы — у напрамку Баброўнік. Зачапіўся я за даволі парадачную жвіроўку і дакаціўся да чыгункі. Зноў апынуўся ў вобрубе Страшава і стаў разглядацца за тамашнім чыгуначным прыпынкам. Быў я калісь там, калі яшчэ стаяў будыначак пачакальні. Але цяпер, як я ні ўзіраўся, ніякага будынка на шырокім гарызонце побач чыгункі не было відаць. Глянуў я на карту, яна яшчэ




Памятны крыж у Страшаве

з канца мінулага стагоддзя, і пабачыў, што той прыпынак — Страшава-Беластоцкае — тут жа каля „маёй” жвіроўкі...

Ад даўняй пачакальні прапалі ўсе сляды. Толькі радок ліхтарных слупоў нагадваў, што яны ў сваю маладосць асвятлялі перон пасажырам, якіх у начны час цягнікі дастаўлялі або астаўлялі. Перон і пуці пазарасталі раслліннасцю ва ўнісон так, што трэба вельмі асцярожна хадзіць па іх, каб не зваліцца на рэйкі і, па меншай меры, не прыдбаць сабе кукіша на носе, а па большай меры то і ногі можна паламаць.

Адправіўся я цяпер больш уважліва на ўсход, зноў у лясныя лабірынты. Сонечнае раней неба сталі паволі зацягваць хмары, недзе паявіліся грукатныя водгаласы, якія выразна інфармавалі, што святы Ілья запрагае сваю конніцу, каб пракаціцца па нашых нябёсах. І сапраўды, неўзабаве на пясочнай дарозе паказаліся вяснушкі дажджавога прадвесця, а калі я дакаціўся да нейкіх збудаванняў, пасыпаўся шпаркі дождж і я рашыў завяршыць сваё падарожжа ды вяртацца назад у напрамку Гарадка, у напрамку чыгуначнай станцыі Валілы. І зноў цераз вобруб Страшава.

Самым вядомым выхадцам са Страшава быў Аляксей Карпюк, які пакінуў выдатныя ўспаміны пра жыццё сваёй вёскі ў міжваенны час. Было і пра чыгунку: „Страшаўскія палі рассякала чыгунка Беласток — Ваўкавыск. Па ёй хадзіў экспрэс Берлін — Варшава — Мінск — Масква. Не хадзіў — лётаў. Пусці паперку, і яна паляціць за апошнім вагонам, як голуб. Пасажырскія цягнікі цераз страшаўскае поле хадзілі па раскладу, па іх вёска настаўляла гадзіннікі”.

Хаця пісьменнік большасць свайго жыцця правёў у Гродне, то ў сэрцы ўвесь час жыла яго́ная родная мясцовасць: „Я мераю, буду мераць да смерці і вучу сваіх дзяцей мераць усё на Страшава: плошчу, дамы, людзей, іхнія ўчынкі, сумленнасць, прыгажосць ды брыдоту, подласць, памеры цярпення, бяду і радасць. Бо кожны чалавек — родам са свайго маленства”.

І не толькі пра чыгунку пісаў Аляксей Карпюк, было шмат і пра грамадскія справы, якія поўнілі душы міжваенных мужыкоў. Наракалі людзі на сваю долю, на свае хутары, якія, паводле іх, былі падзелены несправядліва, гаварылі пра іх судовы перападзел... „К таму часу ўсе ўжо асвоіліся з думкай, што суды за перадзелы хутароў — недарэчная задума, бо як ні дзялі страшаўскую зямлю, а нездаволеныя будуць. У Савецкай Беларусі прыдумалі іншае выйсце. Людзі аб'ядналіся ў калгасы, працуюць на агульным полі, а за работу атрымліваюць залежна ад працаднёў. Страшаўцы адчулі сябе праз калгас уладальнікамі тлустых палетkaў. Калі б ім такую сістэму — працавалі б дзень і ноч! Калі чалавеку цяжка, калі ў яго душы — беспрасветная цьма і няма перспектывы, яго запаўняюць міфы аб збаўцах, усёмагутных героях, цудах”.

Насталі 1950-я гады і ў Страшава заглянула рэальная калектывізацыя. Мінула толькі дваццаць гадоў ад мараў пра райскую кругласутачную калгасную працу да навіслага над іх галовамі ярмом. „Газета Беластоцкая” з лютага 1952 года бедавала, што ў Страшаве недастаткова ахвотных заснаваць калектыўнае гаспадаранне, хаця загаловак артыкула быў баявіты: „W walce o kolektywną gospodarkę krzepnie organizacja partyjna w Straszewie”. На першым арганізацыйным сходзе ахвоту ўступіць у рады калгаснікаў заявілі толькі чатыры асобы. „Jednak większa część mieszkańców wyczekiwała. Patrzono co wyniknie z przygotowań. Niektórzy, a zwłaszcza mniej uświadomione kobiety, sprzeciwiały się kategorycznie założeniu spółdzielni. (...) W rezultacie kilku towarzyszy uległo podszeptom kułackiej propagandy. (...) Tylko więc pozornie przygotowano się do zorganizowania spółdzielni produkcyjnej”.

У красавіку таго ж года загаловак чарговага атрыкула ў „Газеце” паведамляў: „Organizacja partyjna pomoże chłopom w Straszewie w założeniu spółdzielni produkcyjnej”. А ўжо ў ліпені тая ж „Газета Беластоцкая” пісала: „W Straszewie bredniom kułackim , szkalującym spółdzielczość produkcyjną, uległa część członków partii z sekretarzem na czele. (...) Dziś [on] i jego żona powtarzają za wrogiem klasowym, że nie ma możliwości założenia spółdzielni produkcyjnej w Straszewie, ponieważ wieś rozciągnięta jest szeroko, ziemia jest słaba, poprzecinana łąkami i traktory nie mogłyby pracować. Należałoby również domy rozwalać i od nowa je stawiać w pobliżu siebie”. Пазней партыйная газета не згадвала больш пра калектывізацыю Страшава.

Бо і тамашнія мужыкі даволі крытычна ставіліся да ўсялякіх навінак, якія трэба было ўводзіць на практыцы. Яшчэ раз Аляксей Карпюк: „Адно пачні выконваць панскія загады — ногі выцягнеш. Май пабелены комін, плот. А навошта? Каб лашчыла вока пану, як будзе праязджаць у брычцы? Табе так хочацца — сам і бялі! Каля студні зямлю выкладзі брукам, каб свінні ў лужыне не купаліся. І чаго ты, пане, брыдзішся? Нябось, сала ці кумпяк жэрці любіш! А зімой куды брук дзяваць — бабы ногі паломяць на абледзянелым камені, калі пойдуць па ваду. Не будзе сабака на прывязі — штраф. Ці ты таго сабаку заўсёды ўтрымаеш на прывязі? Да воза чапляй бляшаную шыльдачку з адрасам. Яна мусіць быць без плямкі, з аднолькавымі памерамі літар. Каб набыць такую шыльдачку, цэлую курыцу трэба прадаць. На якую халеру селяніну гэтая шыльдачка — гной вазіць на поле? Калі ён раз у месяц прыедзе на кірмаш, а ты захочаш ведаць яго прозвішча — у цябе ж язык у роце!”

І яшчэ пра сябе: „Я не з пакорных, я — з абалваненых. Усё жыццё не там шукаў ідэалу. Я глыбока верыў у камунізм. Я нават верыў, што Сталін ні пра што не ведае, і марыў, як да яго дабіраюся ў Крэмль ды раскрываю на ўсё яму вочы”.

І яшчэ Аляксей Карпюк пра сябе: „Каб узяў хто вялізную вагу і дваццаць тры гады таму назад зважыў страшаўскія палі са збажыной, балоты з травамі, лес з кветкамі і паветра з пахамі, і зрабіў гэта яшчэ раз цяпер, то ў яго не хапіла б роўна столькі кілаграмаў, колькі нашу сваімі нагамі я. Кожны атам, кожная салінка і кожная малекулка ўва мне мае сабе родную ў целах жывых страшаўцаў, у страшаўскім полі, тарфяніску, нават у страшаўскім палыне, крапіве і ліпніцкіх крывулінах...” Гэтая паэтычная фраза, здаецца, і пра кожнага з нас.

Не дакаціўся я да Баброўнік, але дакаціўся да Страшава, да чыгуначнай станцыі, па рэйках якой імчалі экспрэсныя цягнікі са сталічнымі пасажырамі, а якая цяпер зарасла калі не палыном і крапівою, то вельмі падобнай расліннасцю. А на палі, не толькі страшаўскія, усё ж такі трактары ўехалі...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 28